УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)
Д79

**Дубянецкі, Э.**
Д79 Покліч самотнага неба : вершы, паэма / Эдуард Дубянецкі. – Мінск : Кнігазбор, 2013. – 204 с.
ISBN 978-985-7057-95-5.

Вершы Эдуарда Дубянецкага вызначаюцца пачуццёвасцю, фантазійнасцю і яснасцю стылю, імкненнем да зразумення метафізічных праблем быцця. У новай кнізе змяшчаюцца творы лірычнага, філасофскага і смехавога гучання, узніклыя за два апошнія дзесяцігоддзі. Чытач мае мажлівасць пазнаёміцца з беспрэцэдэнтным россыпам класічных і аўтарскіх жанравых формаў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-95-5**


## Знайсці жамчужыны паэзіі

Мастацтва, літаратура, паэзія... Без гэтых слоў нельга ўявіць аніякай нацыянальнай культуры. Без іх гісторыя людства склалася б па-іншаму і была б, мабыць, нашмат драматычнейшай, трагічнейшай, дый зусім непрадказальнай.

Паэзія як адна з найвышэйшых галін культуры заўжды прыцягвала да сябе людзей. Аднак разуменне існасці і (пры)значэння паэзіі ў розныя гістарычныя эпохі моцна рознілася. Платон амаль два з паловай тысячагоддзі таму казаў, што паэт – гэта «тлумачальнік волі багоў», а таксама «істота лёгкая, крылатая і святая», якую Бог пазбывае розуму і робіць сваім слугой. Падобных меркаванняў пільнаваліся і ў антычным Рыме, дзе паэт называўся vates, што значыць «прарок», «вяшчун», празорца». У пазнейшыя эпохі (пачынаючы з Рэнесансу) пачалася відавочная дэсакралізацыя паэзіі, зняцце з яе таямнічага вэлюму Боскай абранасці і святасці...

Мне здаецца, што сапраўдны Паэт – гэта адважны лавец жэмчугу, які нястомна сягае ў акіянскую бездань і выцягвае адтуль бліскучыя перліны паэзіі. Яму – гэтаму адважнаму лаўцу – кожны раз патрэбная максімальная, гранічная канцэнтрацыя ўсіх фізічных, духоўных і інтэлектуальных сілаў,

а таксама абвостранасць пачуццяў, надзвычайная вынослівасць, упартасць, цвёрдасць, каб адолець складаны шлях-сяганне і не загінуць. Каб завітаць, як той казаў, у таямнічае, незразумела-трывожнае падводнае царства цьмяных слоў, неакрэсленых вобразаў і ледзь чутнай таямнічай музыкі і дакрануцца да загадкавага інша-быцця, а тады выплыць на паверхню са сваім каштоўным уловам – вялікімі ці маленькімі жамчужынкамі і абавязкова падзяліцца імі са сваімі спагадлівымі чытачамі-слухачамі.

І нездарма Актавіё Пас у свой час выказаў думку, што ўва ўсіх паэтычных твораў ёсць нешта супольнае, без чаго яны ніколі не сталі б паэзіяй: суўдзел чытача. Спадзяюся, у гэтай кнізе чытач знойдзе для сябе хоць нешта блізкае і дарагое з павылоўліваных мною паэтычных жамчужынак – мо які верш ці некалькі вершаў, а то і некалькі радкоў. У кожным разе я буду ўдзячны сваім дарагім чытачам, якіх лічу суаўтарамі. Менавіта вы можаце надаць упадабанаму вамі твору «другое дыханне», без якога ён незавершаны. Я імкнуўся быць максімальна шчырым з вамі, а таксама як мага разнастайнейшым, каб вы не засумавалі за кнігай. Быць такім, як наша штодзённае жыццё...

Гэтая кніга – працяг майго папярэдняга (і першага) паэтычнага зборніка, што выйшаў у свет колькі гадоў таму. Тут доўжацца нястомныя, часам пакутлівыя, а можа дзе і не зусім плённыя шуканні ў галіне формы – авалодання, асваення і



ўжо даўно вядомых жанраў, і распрацоўвання сваіх уласных увасабленняў паэзіі.

Я апрабаваў шматлікія формы і жанры, вядомыя ад даўнейшых часоў у еўрапейскай і ўсходняй (пераважна персідскай) паэзіі. Сярод такіх, у свой час распаўсюджаных (а сёння рэдкіх і амаль забытых), часам даволі складаных і вытанчаных вершаваных формаў, можна назваць айрэн, віланэль, гекзаметры, глосу, гному, дыфірамб, каламыйку, канцону, мадрыгал, макаранічны верш, пантум, паўсанет, пентаметры, раёшнік, секстыну лірычную, стракаты верш, элегічны двуверш, эпіталаму, эпіфанію і г. д. Некаторыя віды і жанры верша (прыкладам, бейт, дайна, дойна, дубейці, мураба, мусаба, мусадас, нанет, нона, шаіры, эклога, эпод і інш.) увогуле ўпершыню ўводзяцца ў беларускую паэзію.

У асобным раздзеле падаюцца вынайдзеныя аўтарам ці больш-менш трансфармаваныя вядомыя формы, якія сустракаюцца ў творчасці паэтаў розных часоў і розных краін. Сюды можна аднесці абсурда-разумку, безэквівалентку, вертыкальна-гарызантальны верш, верш-пазл, дабудаваны верш, інфандольку, інсурсімку, перакрыжаваны верш, шчыгрынавы верш і г. д. Усе формы, якія я вынайшаў, стварыў, перамяніў тлумачацца ў невялічкім слоўнічку ў канцы.

Вобразна кажучы, вершы ў кнізе ідуць, як марскія паэтычныя хвалі – то вялікія, то малыя, то шпаркія, то павольныя, то сумныя, то вясёлыя, то змрочныя, то светлыя, то аптымістычныя, то

песімістычныя, то канкрэтныя, то містычныя. Таму чытачу найлепей настроіцца на пэўную хвалю, «падхапіць» яе і плыць гэтак далей і далей. Верыцца, што пры чытанні ў паважанага чытача нешта зрушыцца ў душы, адгукнецца ў сэрцы, з'явіцца нагода дзе пасумаваць (а то і паплакаць), дзе ўсміхнуцца, дзе пацешыцца, а дзе нават уздрыгнуць ад якой нечаканкі.

А цяпер... усіх ветла запрашаю ў захапляльнае плаванне ад адной вершаванай выспачкі да другой.

*Аўтар*



# I

## Калі праваду я чароўным смычком...

* * *

У лабірынце слоў нямых блукаю
нястомна я шукаю сярод іх
такія словы
каб з іх можна было скласці
нібыта пазл
таямнічы верш
які б змог вырвацца
з прасторы нематы
і ў рэшце рэшт
загаварыць са мной
з табой
а мо
і з цэлым светам...

## Плынь вечнасці

Плынь вечнасці калісь падхопіць і нас,
чый лёс зямны неспасцігальны.
Наш вырак – ахвярай стаць Там, каб не згас
нябесны агонь незгасальны.

І што ж застанецца ад нас на зямлі?
Мо, сказаных слоў ручаінка?
А можа, сляды, што праз лес нас вялі
туды, дзе надзеі іскрынка

бліснула, паспеўшы адно прашаптаць,
што шлях наш – між мрояў блуканне,
што ён будзе светлым, калі ўдасца стаць

заміранымі, бы святыя,
што верай і любасці ззяннем
шляхі азараюць зямныя.



## Адпачываць там любіць цішыня

Мегаполіс... Цішыня
днём сюды не завітае:
добра ведае –
яе
аніхто тут не чакае...

І таму бяжыць яна
днём на хутар
на бязлюдны,
з ветрам
у хованкі там грае,
п’е ваду
з далоняў студні.

Ну а ў мега... мегаполіс
вернецца яна ўначы,
каб ізноўку на світанку
стуль паціху уцячы
на той хутар
на ўлюбёны,
дзе
яна сэрцам і душой
хоць адпачне...

## Радня

Трывожнай ноччу
і ў дзень такі,
калі цалуе сонца твар ракі,
за нас
хвалююцца бацькі...

І мы
сярод лавіны слоў
пяшчотных, між нямых вятроў
адчаю,
мусім згадваць
пра бацькоў...

Бацькі –
бліжэйшая радня...
А колькі шчэ радні ёсць –
плойма!

Ра-дня –
няйначай, радасць дня
сустрэчы з вамі –
сваякамі –
найдаражэйшым
нашым скарбам на зямлі...



## Мая Радзіма

...Ласкавы шэпт бярозкі каля хаты
і туманоў сівых вандроўкі над ракой,
лагодны ветрык ранішні, крылаты,
сумоўе дрэў з даждждом начной парой
і дол, ахутаны да рання цішынёй.

І на сугрэве разамлелая зямля...
Матулін голас, што прыносіць супакой,
і смех дзіцячы, што лунае над гарой
маленькаю. І спеў Арфея-салаўя,
і ўсмешка лёгкая гарэзы-ручая...

...Цяпер тых краявідаў пастаральных
з дзяцінства светлага майго няма, няма...
У тлуме часу, ліхалеццяў яны зніклі –
дарога тлумная там зараз, дзе трава
была калісьці мне другой калыскай,
дзе сон быў лёгкі пад аховай дрэў..

Было, было... Ды толькі злы вятрыска
пераўтварэнняў хцівых наляцеў,
расшкамутаўшы воблачка спакою,
і зараз там, за той ссівелаю ракою
не гай бярозавы чароўны, а дамы
багата-чэрствыя... як іх гаспадары.

...І ўсё ж дзіцяча-светлыя ўспаміны
жыць будуць доўга ў памяці і ў снах,
а ў іх –
насуперак усім! –
з'яўляцца будзе
мая малая жыццядайная
Р А Д З І М А.

## Беларуская мова

...О роднае маё! Як доўга да цябе
ішоў я, кволы падарожнік.
*Міхась Стральцоў*

Беларуская мова –
то крылы,
што дае міласэрна Ўсявышні
нам для ўзлёту
знямелай душы...

Беларуская мова –
малітва,
што гучыць пранікнёна і льецца
жыццядайным святлом
на імшы...

Беларуская мова –
ліхтарык
для таго, хто зблудзіў цёмнай ноччу
і не ведае шлях
да шашы...

Беларуская мова –
падвода,
што нас вывезе калісь на волю
з сэрца самага
змрочнай глушы...



## Зрабі з маім сном, што захочаш...

*Т. Б.*

Калі мой сон ізноў
сплывацьме недзе
ўніз па рэчцы,
ты яго спыні...

Спыні
і на руках сваіх вільготных
у дом пусты
свой прынясі ўначы,
а потым у ложак свой яго,
нібыта котку,
з сабою побач
пакладзі і прытулі,
альбо,
як бруднае і непатрэбнае люстэрка,
ушчэнт разбі яго,
без роспачы разбі...

## Канатаходзец

Іду я
па нацягнутым канаце –
нацягнутым
паміж скалой Надзеі
і Роспачы высокаю гарой...

Іду паціху,
асцярожна
і баюся
ад урагану Рэўнасці
сарвацца
ў Шаленства бездань,
дзе лунаюць здані
тых чулых душ,
якіх каханне
змагло калісь пакрыўдзіць
і забіць...



## Там...

...Пад круглым небам
ціха рыбак у сінім чаўне плыве.
...І ўспыхвае сонца са змрочнае прорвы.
*Георг Тракль*

Там штось шапоча пасівелая рака,
на неба яблыні налівам белым – зоркі,
там выглядае лодка рыбака
чаўном Харона. І ляжаць пагоркі,

нібы вярблюды ў пустыні; вецер там
містычнай цішынёй зачараваны,
бы немаўлятка, спіць. З нябёс бальзам
спакою льецца. Дзіўны час нірваны...

## Знітаваны

Ніткаю нябачнаю надзеі
знітаваны з родным краем я,
таму
калі тая нітка ўсё ж парвецца,
то балюча ў сэрцы будзе мне...

Ну, а край нічога не пачуе
й будзе жыці, мабыць,
як жыве –
то ў бязмэтным руху, то ў паўсне...

...Толькі верыцца
(о, вера-чарадзейка!),
што абудзіцца наш край калісьці і
будзе кветкаю нябачанай цвісці
ў неабсяжным
і чароўным
Зямным Садзе...



## Нябачны чароўны смычок

Калі правяду я чароўным смычком
па струнах нястомнага ліўня –
напоўніцца музыкай суму мой дом...

Калі правяду я нябачным смычком
па струнах гарэзнага ветру –
напоўніцца музыкай радасці дом...

Калі правяду я чароўным смычком
па струнах душы закаханай –
напоўніцца музыкай шчасця мой дом...

Напоўніцца музыкай роспачы дом,
калі я па струнах самотнага сэрца
ў халоднай начы правяду тым смычком...

## Па-слядоўнікі

Мы штодня ступаем у сляды
(хай і нявідныя)
сваіх сяброў,
знаёмых-незнаёмых
нам людзей.
Мы не садоўнікі свайго жыцця,
мы толькі па-слядоўнікі,
мы крочым па слядах
тых, хто раней тут жыў,
жыве хто зараз,
і пойдзем мы, мажліва, па слядах
тых, хто яшчэ народзіцца калісь,
таксама як па нашых хтосьці пойдзе –
той, што мажліва нас перажыве.
Мы ступаем, крочым...
Куды?
Дзень заўтрашні?
Ці сённяшні?
Ўчарашні?
Не ведаем і самі,
але мы
ідзём
(і не зважаем ні на што)
упэўненай хадою,
каб убачыць,
магчыма,
чорны дзень свой,
які нас
чакае там,
удалечы,
за тым



замглёным
(мо, апошнім?)
паваротам...
Але спачатку,
да тае мяжы пакуль мы дойдзем,
убачыць давядзецца яшчэ нам
дамоў разбураных шмат, зруйнаваных вуліц,
людзей зняверанных, знядужаных;
пачуць нам
шчэ давядзецца енкі-галасы
ўсіх тых, хто ні на што не спадзяецца
і чый у цемры ледзьве чутны крок...
Ідзём,
ступаем,
крочым па слядах,
ну а сляды знікаюць,
па-кідаюць
нас папярэднікі й нашчадкі,
мы ж ідзём
туды,
дзе правіць баль
царыца-Цемра,
туды,
адкуль ніхто шчэ і ніколі,
як ні хацеў,
ды ўсё-ткі
не вярнуўся...

## Разарваны лісток

Кладзецца маўкліва барвяны лісток
на дол,
на зажураны дол...

А воўк, чорны воўк
гэтаксама маўкліва
ірве на шматкі той лісток...

Ліст,
разарваны ваўком,
гэта сэрца,
бяздомнае сэрца маё...

А воўк чорны той –
то крывавы, злавесны,
бяздушна-бязлітасны свет –
зусім азвярэлы
наш свет...



## Касыда пра выток сяброўства/ кахання

...А сонца цягнецца рукамі-прамянямі,
каб
палашчыць хлопчыка на беразе марскім...

Ды толькі хлопчык
гэтага не бачыць –
ён будуе
пясочны замак,
ну а побач з ім

заблытаўся ў валасах дзяўчынкі
свавольны
і гулліва-лёгкі брыз,

які дзяўчынцы-прыгажуні гучна кажа:
«Я выканаю твой любы капрыз!»

І смех дзявочы
белакрылай чайкай
над пляжам малалюдным
паляцеў.

А хлопчык
кінуў позірк на дзяўчынку
і ёй паслаў насустрач
ціхі спеў:

«Ай-я ай-я ай-я,
а ты прыгожая,

ай-а ай-а ай-а,
бы стройная вярба!

Ай-е ай-е ай-е
і голас твой плыве,

ай-і ай-і ай-і
бы човен у трысьнягі!»

*– Што ж, пазнаёмімся. Я – Барбара.*
*– Алесь.*



## Газела пра чароўныя рукі каханай

Пагладзь рукою ты пёрка любое –
і снежная мелодыя крылата
ўміг зацярушыць свет перад табою...
*Федэрыка Гарсія Лорка*

Твае рукі –
нібыта пяшчотныя скрыпкі –
гралі музыку жарсці ўтрапёнай,
нашай жарсці бязмежнай,
былой...

Гралі рукі
і музыка мне падалася
ў пустыні бяскрайняй,
бязлітасна-чэрствай
асвяжальным дзівосным дажджом...

Гралі рукі
і музыку слухалі дрэвы
ў захапленні
і здалося мне, што
да тых дрэў прыляцелі
з нябеснага саду
дзве галубкі ружовыя і
закружыліся ў казачным танцы,
пёркі скінуўшы ў кветкі далонь...

...Гралі рукі,
спявалі,
але немажліва
граць натхнёна і вечна,
таму
час настане

і музыка гэтая знікне,
нібы дальняе рэха
й затым
цішыня нас падхопіць,
бы хваля марская,
і прынясе штосьці нам –
радасць ці боль...



## Пагружэнне

...І шлях уніз мой пралягае,
дзіўны шлях туды,
дзе ледзь не з кожным сантыметрам
становіцца цяплей і гарачэй,
дзе пачынае ўжо кружыцца галава,
дзе кроў, нібы аб бераг хвалі,
настойліва, няспынна б'ецца ў скроні,
і дзе, нарэшце,
адбываецца падзенне
(а мо, узлёт?!)
у бездань пачуцця –
там толькі мы,
там нават час знікае
і мы з табою на мяжы іншабыцця...
І ўвесь той шлях,
шлях-пагружэнне ў глыбіні
цела і духу скончыцца тады,
калі расквецяць нашы стогны цішыню
(так, як расквечваюць нябёсы
гром з маланкай),
а потым сцішацца
й мы вернемся,
нарэшце,
з іншабыцця
ў свет звычайны,
каб тады
пра паўтарэнне таго шляху
марыць, марыць...

## Хацелі б...

...І хацела б рака ўзляцеці на неба.

(нельга нікому туды!)

...І хацела б дачка зняці зорачку з неба.

(нельга нікому!)

...І хацела б сляза шчасця ўпасці у неба.

(нельга!)

І хацела б кроз вежа падняцца да неба.

(не-льга!
не, не!
Льга-а-а-а!)



## Гузакі

Здаецца мне,
што дні, гады, вякі
зрэдзьчас
б'юць у лоб
шырокі чалавецтва
і ў выніку
на лбе на тым
узнікаюць
вялікія й малыя
гузакі...

І чым тых болей
незвычайных гузакоў,
бліжэй тым
чалавецтва падыходзіць
не да палаца мудрасці
ці храма любові трапяткой,
а да кладоў...

## Будоўля клуні слоў

раз**Б**егпалётуне**Б**а
п**А**ветрамоўр**У**чай
ма**Р**котам**Р**ояўглеба
в**А**дажыцця**А**дчай
ра**Д**зімыкрокі**Ў**бездань
гр**У**кочабольус**К**ронь
пя**Л**ёсткаўшлях**І**ўбессань
ляц**І**цьнатхнен**Н**яконь
сця**Н**азлапош**У**мсноў
б**У**доўляклунінслоў...



## Плод згуртаванасці паўсюднай – перамога

...Калі між імі будзе еднасць –
ліхое згіне у бясследнасць.
*Уладзімір Жылка*

Пакутуе даўно наш «слаўны» горад
ад тлуму і бязмэтнай мітусні...

І гараджане бегаюць і ходзяць
(у сваёй большасці),
бы прывіды шалёныя
й здаецца,
што гэты броунаўскі рух
не мае сэнсу
і знішчае мары, думкі
спакваля...

На тварах часткі «прывідаў» ляжыць
пячатка меланхоліі і стомы.
Камусьці з нашых гараджан завыць
хацелася б ваўком, а хтось саломы
хацеў бы мо паслаць і легчы спаць
пад дрэвам (мо, таполяй?) у Бат. садзе.
А хтосьці (летуценнік!) п'е каньяк
і марыць аб прыгожым зарападзе.
А хтось, пры «бабках», часта ў рэстаранах
прасаджвае хіба не стос «зялёных».
А хтосьці «траўкай» бавіцца у клубах
начных – распусты эпіцэнтрах, тут
дзяўчат здымае у спадніцах супер-міні,
каб сэксам дзе заняцца потым з імі...

Эх, суайчыннікі,
мае вы гараджане,
не бегайце, прашу,
туды-сюды,
не лётайце, бы кажаны,
не выйце-галасіце,
і адцурайцеся, нарэшце, ад распусты,
што homo sapiens'а з хуткасцю ракеты
расчалавечвае;
і не грызіце, людцы,
адзін аднога,
бы драпежнікі,
а лепш
пазбаўцеся ваўчынага аскалу
і ў вочы сваіх блізкіх і суседзяў,
сяброў і нат начальнікаў-калегаў
зірніце вы па-добраму, з цяплом
і, можа быць,
яны адкажуць тым жа;
тады згуртуйцеся вы з імі, заспявайце
і жывіце ў шчасці хоць тысячу гадоў!

І тут спытаў хтось:
«Хто да згуртаванасці гатовы?»

*І апусцілі ўсе тады галовы...*



## Чалавека-свет

Я заплюшчваю вочы –
і ўвесь свет
знікае вокамгненна,
пакідаючы мне толькі
галасы самотных птушак
ды ціхі пошум сябрука іх –
ветру...

...Я расплюшчваю вочы –
і ўвесь свет
уваходзіць у маё цела
вокамгненна,
і вось я зліўся, зліўся
з цэлым светам;
таму цяпер я
чалавек не просты,
а незвычайны
Чалавека-свет
(а, можа, ўсё-ткі
Света-Чалавек?)...

## ...І голас (пад)свядомасці пачуць

...зноў шнары на спіне збалелай начы
зверам сонным чорным на зямлі
ляжаць аскепкі мрояў сон бяжыць
надзеяў куфар і ўначы спявае дрэва
праточваюцца шэпты стогны ненароджаных
містэрыя любові ды кілім пакутаў шэры
і зблытаны клубок і хтосьці тчэ самоту
а хтось рукамі вуснаў размаўляе
каб наталіцца захмялелае паветра
дзесь вочы працінаюць шал прыбою
і подых ветру крышталёвы небакрай
паставіўшы пячатку стомы на
і набрынялыя спагадай галасы
і пераловы і памерлых і жывых
дамы ў смузе адчаю сэрца лета
і нітка памяці раскручваецца боль
у гушчарах чыіхсьці крозаў танец
і жарсці звер бяжыць лес пазяхае
і кроў пульсуе ў сутарэннях вечнасць
у скляпеннях холад выпрабоўвае зноў страх
а роспач шпарка падыходзіць бездань спіць
разгортвае сувой пакута б'ецца ў сцену
імша ў нябёсах кроў з акна ліецца
сум безгалосы выпрастаць крыло
аленя клічуць звар'яцелае каханне
а пляж пустынны песціць у далонях
мяне й дзіця маё вось гэты верш...



## Журботны дыялог

– Жыццё маё сцякала,
бы вада
з халоднага і вострага ляза...

– Маё жыццё –
гаркавая сляза,
што ўпала на зямлю калісь
і знікла,
і знікла незаўважна,
бы раса...

*[Той дыялог*
*дзвюх мёртвых душ пачулі*
*пясок маўклівы*
*й задуменная трава].*

## Бясконцасць вады

Стаіць вада,
А я іду...
Цячэ вада,
А я стаю...
. . . . . . . . . .
Стаіць.
Цячэ.
Жывая...
. . . . . . . . . .
Стаю.
Іду.
Знікаю...
. . . . . . . . . .
...І перад усім
і пасля ўсяго –
бясконцасць вады...
~~і ва́ды.~~



## Белая малітва

> У цемры ўзыходзіць святло справядлівым;
> добрае яно і міласэрнае і праведнае...
> *Псальм 111:4*

О, Божа, памілуй мя, Божа!
Дай светлага мне ўсяго:
дай радасці белай, квяцістай
і волі дай мне прамяністай,
і веры глыбокай і чыстай,
натхнення таксама дай белага,
збавення для сэрца знямелага,
паходню дай у рукі нясмелага
і шчэ дай кахання празрыстага,
дай шляху мне некамяністага,
ад цёмнага збаў і ад хітрага,
ад чорнай бяды адвядзі,
нахабных і злых асадзі,
дай шчасця, бы зорка, яскравага,
дай бачыць мне белыя сны,
душу збаў ад здрады, маны!
О, Божа мой,
дапамажы!

## Маналог Ларысы Геніюш

«...І дарога праляжа белая
цераз ляды, бары і пушчы.
І па ёй пойдзе колісь і наш народ –
смелы, упэўнены, мудра-відушчы.

Хай і вецер лютуе, і дождж сячэ,
хай вакол чуваць злыдняў балачкі,
ды ўсё гэта не спыніць нашчадкаў хаду, –
беларусы – арлы, а не качкі.

Так, круціўся над Краем вайны віхор
ды стагналі ад болю палеткі.
І цяклі па зямельцы крыві ручаі,
чэзлі людзі і дрэвы, і кветкі.

Мне й самой давялося бяды глытнуць,
зведаць здраду, пакуты без меры.
Ды заўсёды трымала мяне ў змрочны час
нашых продкаў апірышча – вера.

Бы драпежнікі, рвалі чужынцы душу
беларусаў і бруднай нагою
ўставалі на горла ўсім ім, але
гнеў тубыльцаў тады цёк ракою...

...Так, было столькі ліха на нашай зямлі,
што хапіла б на дзесяць народаў.
Адрадзіся, як Фенікс, мой край і жыві
пад нязгаснаю зоркай свабоды!

Беларусы, яднайцеся
і талакою
крочце ўперад
з Любоўю і Верай святою!»



## Калядны верш

...І калядная зорка ізноў
абвяшчае пра цудаў пару...

...І тады ўсе пакутныя душы
падымаюцца з прорвы ўгару.

...І някепска было б тую зорку
на куццю ў свой дом запрасіць,

каб з той зорачкай светлай у хаце,
як з сяброўкаю, пагаманіць.

З ёй паслухаем у ночку святую
калядоўнікаў песні... Аднак

неўзабаве мне з ёй давядзецца
развітацца
да новых Каляд...

## Матуля

О, мілая мама, матуля!
Хай гэтыя словы гучаць
заўсёды чароўнаю песняй,
хай птушкай да неба ляцяць...

Матуля, о мілая мама!
Анёл самы добры мой ты,
мая пуцяводная зорка,
што свеціць нязгасна ўначы...

О, мілая мама, матуля!
Агонь жыватворны ты мой,
які ў сцюдзёнай нат цемры
душы дасць цяпло і спакой...

Матуля, о мілая мама!
Хацеў бы шчэ шмат я сказаць
ды ўсіх слоў удзячнасці мала
заўжды будзе; трэба палаць
любоўю штодня. Каб сумоўе
душ нашых не знікла, о мама! –
пастаўлю я свечку й маліцца
пачну пад скляпеннямі храма...



## Санет
## пра пошукі дзівоснага ключа

Шукаў я гэты дзіўны ключ паўсюдна і здаўна:
ў мястэчках, вёсках, гарадах, на беразе марскім,
садах і ў парках, і ў гарах ад ночы да відна,
штодня нястомна марыў я аб ім, аб ім адным.

І для мяне той дзіва-ключ – ён самы даражэйшы,
у параўнанні з ім каралі – то проста дробязь,
пыл.
Ён – мая радасная боль, я з ім нават мякчэйшы
за шоўк усходні, мне не страшны з ім нават сам
Заіл.

Шукаў, шукаў яго, бы скарб, зацята, апантана,
прысеў на беразе – са мной заплакала й лагуна.
Здавалася: няма ўжо сіл, і ў сэрцы ныла рана,
але ж змяніла гнеў на літасць магутная Фартуна.

...На дне ракі любові я той ключ здабыў, здабыў,
і дзверы сэрца я твайго нарэшце адчыніў...

## Танец кахання

Дай мне шанец шанец шанец
на адзін з табою танец.

Страсны танец той кахання
будзем мы скакаць да рання.

За той танец падарунак
табе будзе – пацалунак...

Тады ўзяўшыся за рукі,
мы гуляцьмем без прынукі

недзе ў парку, а затым
хай смяецца нам адным

сонца... Хай насустрач крочыць
вечар і... хай напрарочыць

шчасце нам сямейнае,
празрыста-беззавейнае.

Ноч-вядзьмарка ў ціхі час
у жарсці вір хай кіне нас.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...А «наступствам» танца тога
сталі шлюб і дзетак многа...



## Калыханка

Вечар дрэвы ўжо загушкаў,
ну а я табе, дачушка,
ўжо пасцельку пасцяліла,
каб ты добра адпачыла.

Лю-лі, лю-лі, пасцяліла,
Лю-лі, лю-лі, адпачыла...

Ночка завітала ў госці
ў час спакою і мілосці,
табе казку нашаптала,
цябе, сын, закалыхала.

Лю-лі, лю-лі, нашаптала,
Лю-лі-лю, закалыхала...

Кветкі мае, дзеткі, спіце
і салодкія сны сніце.

Лю-лі, лю-лі, мае кветкі,
Лю-лі, лю-лі, спіце, дзеткі...

P. S.
*О я жа хочацца мне гэту калыханку*
*насамрэч заспяваці сваім дзеткам*
*ды шчэ яны... не нарадзіліся пакуль*
*сумую пла́чу спадзяюся веру*

## Дзеткі

Дзеткі
(у садках)
бесклапотна смяюцца,
з улюбёнымі цацкамі
граюць...

Дзеткі
(у школках)
гуляюць у дарослых
і настаўнікаў употай
кахаюць...

Дзеткі
(у больніцах)
зрэдку смяюцца
ды часам,
бы свечкі,
згасаюць...



## (Ад)чужынцы,
## або
## Не чуюць дый Не хочуць чуць...

*У кожным горадзе і ў час любы пабачыць можна сцэнкі вось такія:*

– Татка,
памажы намаляваць хлопчыка,
які дорыць сваё сэрца прыгожай дзяўчынцы!

*Не чуе*
(захоплена глядзіць футбольны матч)

– Мамка,
мне не спіцца – заспявай калахынку пра коніка,
што кладзецца ў свой ложак – густую траву!

*Не чуе*
(неадрыўна сочыць за героямі «мыльнай оперы»)

– Сынку,
занясі хворай бабулі нашы лекі!

*Не чуе*
(увесь у сваёй улюбёнай камп'ютарнай гульні)

– Дачка,
схадзі ў краму па торт – у твайго брата сёння
дзень народзінаў!

*Не чуе*
(захоплена размаўляе па скайпу з сяброўкай)

– Мужчына,
абараніце дзяўчыну ад хама, які абражае яе ўжо
некалькі хвілін!

*Не чуе*
(адвярнуўся і слухае праз навушнікі песню сваёй
любімай спявачкі)

– Людцы,
хутчэй дапамажыце, бо майго сына схапілі
нейкія хлопцы ў цывільным!

*Не чуюць*
(хтось адышоў у бок і з усмешкай размаўляе па
мабільным тэлефоне, а нехта стаіць і шэптам
абураецца)

*Не чуюць?*

Ці робяць выгляд, што *не чуюць?*

Ці проста *не хочуць чуць...*

...Адчужэнне –
адчужынцы –
чужынцы...



## Прывідны пейзаж

...бо вакол згушчаюцца цені
і ў іх мрояцца прывіды...
*Уільям Батлер Ейтс*

...І вогнішча сквапнае з'ела той дом
гаспадары адышлі па сцяжыне адчаю
памятаюць дрэвы плач немаўляці
барвовы вечар пахаваў галасы птушак
бела-блакітны анёл схіліў галаву над магілай
з чэрава ночы выходзяць маўклівыя цені забітых
месяц уручае ім свой бледна-жоўты ліхтар
вочы травы бачаць іклы здранцвелага звера...

## Бязлітаснасць

...І стала ягонае сэрца нямым
(дзесь голас свой у цемры згубіла).

І лётаць няма з кім ягонай душы
(сяброў душы здрада спаліла).

Бы прысак, патухлі ўжо вочы яго
(святло ў іх маркота забіла).

О, лёс-ліхадзей,
ну навошта ты так
бязлітасна з ім
абышоўся?!



## Інтэлігенцыя

Насілле.
Змрок.
Хлусня ракой...

Інтэлігенцыя,
скажы,
чаму не чутны
ў родным краі
голас смелы твой?

Інтэлігенцыя,
скажы,
чаго маўчыш,
нібы пад венікам
у закуточку мыш?!

...І тут пачуў,
здалося,
шэпт я твой:
«Мы,
як і ўсе амаль,
прыбіты
бязвер'я й страху
цяжкаю плітой».

## Канфармісты

Іх не турбуе лёс краіны,
іх крэда – быць ніжэй травы
і гнуць перад начальствам спіны,
жыць, як бязвольныя рабы.

Іх не хвалюе скон народа,
а толькі шмоткі, сэкс, харчы.
Для іх пусты гук «дух», «свабода»,
іх прынцып – «лепш заўжды маўчы!»

Яны б хацелі жыць так вечна,
бы рыбы ў касяку, маўчаць,
і плыць ракой жыцця бяспечна
усёй сям'ёй сваёй. Аднак
з нашчадкаў, веру, хтосьці пракрычыць
ім: «Канфармісты, ганьба ўсім вам, ганьба!»



## Цень мінуўшчыны жыве ў нашых сэрцах

Сучаснасць і мінулае,
верагодна, наступяць у будучыні...
*Томас Стэрнз Эліёт*

Адчуваю,
што мінулае не хоча
ад сябе нас адпускаць
і бачу я,
што яно,
бы цень,
ідзе за намі...

Цень мінуўшчыны
ідзе за намі,
і яму
мала гэтага, мажліва,
а таму
ён праточваецца ў нашы сэрцы
і звівае
там утульнае гняздзечка...

І ўрэшце,
асеўшы ўнутры нас,
цень той змрочны
хоча жыці – не тужыці
там бясконца...

# Растáем...

Вясновы снег
ляжыць такі шчаслівы!

І ён ляжыць,
і не адпачывае,
а так зямельку страсна абдымае!

Спяшаецца
снег з ёй наабдымацца,
бо прачувае ён,
што ўжо расстацца
ім неўзабаве прыйдзецца...

...І снег той
на нашых на вачах
павольна тае...

...І як той снег,
мы ўсе калісь растаем...

Растáем мы,
але ўслед за намі
нашчадкі прыйдуць
новымі снягамі...



# Чараванне vs расчараванне

Расчараванне...

Раз чараванне,

два чараванне,

тры чараванне...

Твае чараванні
адужалі хутка
маё
тое
расчараванне...

За гэта цябе,
чараўніца,
я слаўлю
і маю надзею,
што словы
«I love you!»
табе
неўзабаве
скажу...

## Містычная цішыня

Сонца нячутна адчыняе заходнюю браму і знікае
за ёй.
Вечар канём варанЫм выходзіць з-за далёкага
пагорка.
Прыціхлы вецер сплывае ўдалеч на спіне ракі.
Маўклівыя цені блакітных анёлаў блукаюць
між дрэў.
З ляснога гушчару выходзяць прывіды зніклых.
Чужынец у чорным нясе трывогу пад сваім
плашчом.
Заржавелая клямка сумуе па руках гаспадароў.
Хата на падворку аглухла ад учарашніх грымотаў
і не чуе крокаў чужынца.

*А Ён набліжаецца...*

І туман смялей абвівае, бы васьміног
шчупальцамі,
знямелы той дом і закінуты сад.



## За ўсё...

За ўсё, што збылося і не,
за шчасце наяве і ў сне,
за лёгкую радасць і сум
цяжкі, за ўзлёт стомленых дум,
За лЮбую тут, не ў раю,
за ціхую ліру маю
й за сэрца, дзе правяць любоў
з надзеяй, за шлях мой дамоў
па сцежках пакутаў і болю,
за пошукі волі й спатолю
бясконцае смагі кахання,
за горкі бальзам развітання,
за слодыч сяброўства й святло, –
я Богу і лёсу за ўсё
удзячны,
за ўсё, што было
калісьці
і што яшчэ
будзе!

## Не пачула

...І мне здалося –
нават сонца заспявала,
калі ля рэчанькі
убачыла цябе...

І я,
шчаслівы,
заспяваў усёй душою –
я ўпершыню
спяваў дуэтам
з сонцам!

Але ж ты
гэных спеваў
не пачула,
бо прагучалі яны
толькі ў маім сне,
наўсцяж спавітым
ласкаю, пяшчотай...

Я не сказаў табе пра сон той
анічога
і не скажу ніколі,
але ж ён
у нетрах памяці
блішчыць хай,
як брыльянт...



## У цянётах рэўнасці

О, маё сэрца,
ты ў цянёты рэўнасці
патрапіла.
О, маё сэрца,
ты спакою стужку
страціла...

О, маё сэрца,
вырвіся
(прашу я!)
з цянётаў ліпкіх
і агідных тых!

Чакаю.
Спадзяюся.
Але чую
я толькі твой
бяссілля
ціхі ўздых...

## Чароўнае люстэрка

...Усё ў тым люстэрку:
дзяцінства рачулка
і сонца і шчасце і ва́да
і лівень пяшчотны
і радасць і горыч
любоў і каханне і здрада
і светлая мроя і сон і спагада
і холад і снежная за́мяць...

Жыццё маё ўсё
ў тым чароўным люстэрку
пад назвай кароткаю
«Памяць».



## Пайшоў...

Гатовы часу што заўгодна я аддаць,
дайшоўшы да апошняе мяжы...
*Роберт Фрост*

Пайшоў на стрэчу з конам са сваім –
ды кон мой знік, нібы над лесам дым...

Пайшоў на стрэчу з верай са сваёй –
ды вера знікла птушкай за гарой...

Пайшоў на стрэчу я з Табой, а Ты –
а Ты у моры вечнай нематы...

Пайшоў...Іду... І толькі дождж на
зямлю ліецца ціха і трывожна...

## Знядужаны вечар

Знядужаны маўклівы вечар,
паклаўшы
ў свой вялізны заплечнік
усе самыя яркія фарбы
і пахі дня,
і зняўшы з неба
згасаючы сонечны каганец,
кладзецца спаць
на чыстую пасцель
сваёй каханкі
чарнабровай – ночы...



## Ранак-валацуга

Ціхенька ранак
коткай паўзе
ў маю хату.

Разгортваецца,
бы папірус, на сцяне
дзівосны сонечны малюнак –
ад каго
такі мне
незвычайны падарунак?!.

...Злятае з вейкаў сонная напруга –
што ж,
прывітанне,
ранак-валацуга!

## Закотнае сонца

Бы з воднае горкі,
з усмешкай ледзь бачнай,
скацілася сонца,
і там
яно за далёкім
за тым даляглядам
зноў плюхнулася,
як учора,
ў вялізны падземны
басейн...

І ў ім праляжала
(о, беднае сонца!)
ўсю ночаньку
аж да світання...



## Купалле

Калісь на Купалу мы ледзь не да шалу –
кахалі, кахалі...

І нашыя дочкі на шчасце вяночкі –
па рэчцы пускалі...

Той ночкай улетку мы папараць-кветку –
бы скарбы, шукалі...

Праз вогнішча цела гарачае, смела –
да стомы скакалі...

Як сонейка йграла на золку, спявала –
мы ўсе назіралі...

. . . . . . . . . . . . . . .

...О, час маладосці, о, час Ягамосці –
далёкага Шчасця...

Час Шчасця далёкага і сінявокага –
жыць будзе
у памяці
нашай...

## Песня самотнага беларуса

«Ў душы маёй
у маёй душы
адчай буяў
буяў адчай...

Ў цішы начной
у начной цішы
край наш стагнаў
стагнаў наш край...

Адчай буяў.

А край стагнаў.

...Вось так
на беражку адчаю
народ пакорна паміраў.

Так
паміраў
аднак за шчасце
змагацца-біцца
не жадаў...

Ах
як жа прыкра –
не жадаў».



## Не вяртацца...

...І заблудзілася душа
у пушчы спаконвечнай.

І там сустрэлася яна
з тугой – сястрой стрыечнай.

І ў вочы там адна адной,
глядзелі, гаманілі...

Цяклі над імі, бы ручай
нябесны, жыцця хвілі.

...І вырашылі ў тлумны свет
ніколі не вяртацца –

Лепш ва ўладаннях цішыні
навек удвох застацца...

## ...І востры меч над безданню блішчыць

...Сцякае з меча вострага мой сон...

Сцякае у крывавае прадон-
не.
Не!
Ты не сцякай, мой сон,
туды,
дзе зніклі калісь і мястэчкі, гарады...

Лепш заставайся
на бліскучым тым мячы,
які нябачны хтось
трымае на мяжы
між цьмяным Заўтра
і пустым Учора...



## Змрочная фантасмагорыя

...Сама ў цэнтры бязлюдных краёў
ён стаіць між чырвоных снягоў
(з гор ліецца гарачая кроў).

Пад аховай шалёных вятроў
стаіць замак пусты, ля муроў
яго зграя галодных ваўкоў
разам з хеўраю злых груганоў
з ручая ненасытна п’юць кроў
чалавечую...

## Не бачым...

...Вартуе ночка нашы сны –
вачэй з іх не спускае...

Музыка-месяц калыханку
пяшчотна нам спявае,
ці, засмучоны адзінотай,
на скрыпцы ціха грае...

Танцоркі-зорачкі смяюцца
і водзяць карагоды...

І толькі мы спім і не бачым
містэрыі прыроды...



## Пляц

Быў пляц той калісьці
шматлюдны й шматгучны –
царылі там смех,
прыгажосць.

Ды толькі пусцее той пляц,
бо з яго
па волі няўмольнага Часу
адходзяць паціху каханкі, сябры,
прыяцелі і сваякі...

Адходзяць,
ніколі вярнуцца назад
не змогуць
на пляц той
жыцця...

О, не адходзьце,
прашу вас,
яшчэ
пабудзьце хоць трошкі
са мной,
сагрэйце дыханнем сваім...

*мне холадна...*

## Ліст юнаму сябру

Мой сябра юны,
хай твая нага
ніколі не ступае там,
дзе выступае хлус і хам;
і там не ступіць хай твая нага,
дзе шэрасць падхалімная балюе,
а шчэ і там,
дзе Праўда не начуе
ніколі і нідзе...

Шукай,
мой сябра,
днём, уначы свой шлях,
які не пройдзе і прайсці не зможа
ніхто
(апроч цябе), –
той шлях,
дзе да гармоніі з сабой
і з цэлым светам
ты наблізішся
й шукай
той бераг дальні
нескаронай Волі...



## Гімн пяшчоце

Тады,
калі кранаюцца мае вусны тваіх,
тады,
калі яны вядуць нячутны патаемны дыялог, –
гэта твой зорны час,
Пяшчота.

І тады,
калі мы сядзім на тэрасе ля мора
і глядзім адзін аднаму ў вочы,
там,
у іх бяздоннай глыбіні,
ты запальваеш
свае маленькія
(толькі нам дваім вядомыя)
агеньчыкі,
Пяшчота.

І ў той час,
калі мы пасля летніх вакацыяў
зноўку сустракаемся,
і пасля апошняга кінасеанса
праводзім доўгачаканую
амаль бяссонную ночку,
ты й там, о лепшая госця,
ты й там сястра жарсці,
Пяшчота.

Нават там,
дзе здавалася б,
табе не месца,
там,

дзе галоўнае выжыць, не здацца,
у халоднай краіне адчаю і адзіноты,
нават там
успамін пра цябе,
нібы зёлкі
з адвечнае пушчы,
можа сілы мне даць не зламацца
і вярнуцца дадому,
Пяшчота.

О, Пяшчота,
суправаджай нас,
як цень,
і будзь
(покуль будзем мы разам)
анёлам-ахоўнікам нашым.



II

Паэтычны
калейдаскоп

## Хай чуюць
*Айрэн*

Сонечны ранак смяецца, як ты.
Кіну я словы ў далонь нематы.
Хай чуюць дрэвы, рэкі, масты
словы, што шчасця закладнікі мы!

## ...І змрок ён вядзе за сабой
*Акварэль*

...Здалося, што вечар манахам-
чужынцам прайшоў па зямлі.
А можа быць, ён чорным птахам
прысеў зноў на мокрым галлі.

Прысеў і вакол пазірае, –
ён тут і цяпер гаспадар...
І вось паляцеў і кружляе
й чуваць, кліча змрок
за сабой.

## Менестрэль і мадэмуазель
*Балада*

...Ён дзяўчатам вельмі многім
надта падабаўся.
Сам аднойчы у дзяўчыну
раптам закахаўся.

Ён хадзіў да яе дому
ўлетку, напрадвесні,
і пад вокнамі нярэдка
ён спяваў ёй песні...

А дзяўчына: «Калі хочаш,
дык спявай, – хоць трэсні!
Не патрэбны мне твае ўсе
заляцанні, песні.
Пакахаць цябе я, хлопча,
не змагу ніколі.
Таму так скажу – ідзі ты
шукаць лепшай долі».

...Словы гэткія балюча
апалілі сэрца.
О, як цяжка было хлопцу
жыці ў паняверцы...

І аднойчы ён не здолеў
больш трымаці ў сэрцы
невыносны боль і ўрэшце
здумаў ён памерці...

І на мост падняўся хлопец,
(беднае сардэчка!),
..І яго бясстрасна, моўчкі
праглынула рэчка...

P. S.
...Душа хлапца-прыгажуна ужо даўно
знаходзіцца у пекле альбо ў раі...
Ну а дзяўчына-прыгажуня?
Яна зараз



шчаслівая жыве
у іншым краі...

## Зладзейка
*Бейт*

О, бессардэчная зладзейка! Мне скажы, нашто ты
Маё знясіленае сэрца ўсё ж скрала з вежы
адзіноты...

## Дарэмнае чаканне
*Бурымэ*

Ідзе хадою стамлёна-сумнай вечар.
Гасцей-сяброў сваіх чакаю я, – бедны лекар...

Крадзецца зноўку, бы лісіца, ночка.
Ляжыць, гасцей чакае піва бочка...

Прыйшоў нявыспаны і злосны ранак.
Гасцей чакаў-не дачакаўся ганак...

І вось, гляджу, ідзе з усмешкай дзень.
А я ізноў сяджу-чакаю, бы пень...

## Я мог бы, калі б…
*Верлібр*

...Я мог бы
напэўна ўжо з’ехаць адсюль
і знікнуць без следу ў чужыне
і там бы наўрад ці мяне хтось знайшоў –
хто ж кроплю шукае ў моры

Я мог бы пайсці зноў пайсці у туман
у шызы туман і дадому
ўжо больш не вярнуцца ні сёння ні заўтра
а можа быць нават ніколі
бо вецер я чуеце чуеце вы
я вецер ядвабны
а ён
вяртацца назад не прывык...

Я мог бы
мажліва не вытрываць і
аднойчы амаль звар’яцець
заснуць і прачнуцца і ў цёмным люстэрку
ўбачыць сябе ці свайго двайніка
ці можа сваё Alter Ego
убачыць заўважыць у сумных вачах
маленне аб простым каханні...

...Я мог бы
зрабіць так ці гэтак калі б
як сон знікла наша каханне
і там за дзвярыма прыступкі калі б
пачулі апошні раз крокаў
гук Вашых паспешлівых крокаў
калі б не было Вас са мной тут цяпер...



ды шчасце
што побач Вы ёсць
і покуль мы разам сказаць я магу
мне болей н і ч о га не трэба
і нават н і х т о не патрэбен мне больш
і лёс мой паверце не толькі ў маіх
але і ў Вашых руках
танюткіх такіх і ласкавых...

## Паляўнічы
*Вершасказ*

Сонца-паляўнічы
сваю вялізную бліскучую сетку з промняў
накінула на сонны горад,
які,
прачнуўшыся і ачуняўшы,
адразу
падараваў
сваю шчырую ўсмешку
такому лагоднаму і пяшчотнаму
паляўнічаму...

## Сум мае прытулак у снах
*Віланэль*

Сум мой светлы ўжо знікае,
ён ідзе у царства сноў.
Там прытулак ён свой мае.

Што ж яго там сустракае?
Холад роспачных вятроў.
Сум мой светлы ўжо знікае...

Адзінокі, ледзь трывае –
бо вакол няма сяброў.
Там прытулак ён свой мае.

Ён, мажліва, там сканае, –
там, дзе згінула й любоў.
Сум мой светлы ўжо знікае.

Альбо ў час, калі світае,
засне ў полі між снягоў.
Там прытулак ён свой мае.

Прыйдзе дзень – яго схавае
хмара шызых тумаў.
Сум мой светлы ўжо знікае.

Там прытулак ён свой мае...

## Вярніся...
*Гекзаметры*

Радасць, вярніся, вярніся: мне без цябе цяжка жыць.
Бачу: не чуеш, знікаеш прывідам у тумане густым...



## Варыяцыі на тэму этнапсіхалогіі беларусаў
*Глоса*

Не пазнаю цябе, мой Краю,
нявечыць людскасць лад чужы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Ударыць гром, ярмо нявольнік скіне,
жывы народ падымецца з калень...
*Ларыса Геніюш*

**Краіна васількоў, што лашчаць вочы,**
**балотаў, што затуляць ад навалы,**
**дзе ручайком ліецца смех дзявочы,**
**дзе войнаў след крывавы і трывалы...**

**I**

Зямля не ведае спачыну –
і нараджае, і выхоўвае дзяцей
сваіх – звяроў, раслін, людзей,
якім заўсёды падстаўляе сваю спіну
і лашчыць, і кладзе у дамавіну,
і помніць яна дні свае ўсе, ночы,
і зрэдку сніць свой сон цяжкі, прарочы.
Ты так не любіш безвыходнай нематы
і промні сонца п’еш з ахвотай ты, –
**Краіна васількоў, што лашчаць вочы.**

**II**

У той краіне пушчаў і бароў
ужо няма сядзіб старых, фальваркаў,
няма тэатраў школьных, слаўных паркаў,
што назіралі за забавамі паноў...

Там галасы былых гаспадароў
ніколі ў замках не пачуюць залы...
Там спяць на рэках чоўны і прычалы,
там дзесь стаяў у лесе ідал боства
язычніцкага, і было паўсюды мноства
**Балотаў, што затуляць ад навалы.**

**III**

Здаўна жылі тут продкі-ваяры –
іх смеласці мог пазайздросціць кожны.
І ў час нялёгкі, цёмны, час трывожны
ядналіся дзеля свабоды жыхары,
ішлі змагацца. Але з даўняй той пары
прапала мужнасць, і ў цябе, народ, жаночы
цяпер характар, што не дазваляе крочыць
адважна ўперад і чужынскім галасам
сказаці: «Край свой родны не аддам,
**Дзе ручайком ліецца смех дзявочы?!»**

**IV**

Няма ўжо сёння бонды, талакі
й сябрыны – ў цемры Часу зніклі.
і хіжы Страх ужо ашчэрыў іклы.
У выніку тубылец стаў такі
маўклівы, быццам бераг у ракі;
дух заняпаў, ляжыць, бы ліст апалы,
і бачу я паўсюль хлусні завалы...
І ўсё-ткі верыцца, што знікне вір бяды
і годнасць, гонар вернуцца туды,
**дзе войнаў след крывавы і трывалы...**



## Зарасло...
*Гнома*

Лепш не вяртацца ў памяці стары сад, бо
там быльнягом забітых мар усё зарасло...

## Dzintars*
*Дайна*

«Ай, хлапчына, ну чаму ж ты
на мяне не глянеш?
Глянь, няўжо я горш за dzintars
на ўзбярэжку мора?!

Толькі б падарыў усмешку
мне і пацалунак,
аддала б табе адразу
свой вяночак з руты».

## Песня чабана
*Дойна*

У лесе, ў гарах і ў даліне
мне боль не суняць ніяк,
бо з'ехала ўчора да брата
fata mea preferată**.

Але ж я на ўсё гатовы –
аддаць хоць усенькіх авечак,

---

* Dzintars (*латышск.*) – бурштын.
** Fata mea preferată (*румынск.*) – Мая каханая дзяўчына.

каб зноўку зайшла ў маю хату
fata mea preferată.

## З каханай
*Дубейці*

Купацца ў возеры пяшчоты – з каханай.
Прайсці праз цёмны лес самоты – з каханай.
Няхай галосяць вятры роспачы над намі,
гучацьмуць шчасця ноты ў душы – з каханай!

## Дом народнага шчасця
*Думка*

Будуем дом
народнага мы шчасця.

Будуем і будуем –
збудавалі
ледзь не да самых да нябёсаў,
а тады
падумалі:
«Навошта тога шчасця
нам столькі трэба?!

Не,
зусім не трэба,
было каб легіён шчаслiўцаў,
а таму
не варта далей
дом нам будаваці,



давайце лепш
яго мы руйнаваці
пачнем,
каб не зайздросціў аніхто
тым, хто жыць будзе
ў гэтым доме...

...І час прыйшоў,
той дом мы зруйнавалі,
але ж палёгкі
аніякай не спазналі,
бо пад руінамі
разбуранага дома
і шчасце знікла,
і народ наш знік,
вядома...

## Маёй музе
*Дыфірамб*

О, муза мая мілая, табе
складу я зараз дыфірамб шыкоўны,
і напішу, што ты – святла царыца,
альбо мілосці срэбны кубак поўны;
яшчэ скажу, што ты – мая каханка
найпрыгажэйшая. Цябе не адпушчу
ніколі ад сябе, князёўна ты, дваранка!

...Пакуль пісаў я гэты верш табе –
Вар'ятка, здрадніца,
ты збегла ад мяне...

## Атокяпс
*Загадка*

Вось учапіўся звер шалёны
і з кіпцюроў сваіх
мяне ён адпускаць не хоча.
І вось я млявы стаў і сонны.
Ну а завецца гэты звер....

Адгадка: Атокяпс
(чытаць наадварот)

## (Сама)разбурэнне
*Знома*

Перш чым тварыць, сапраўдны мастак павінен разбурыць (у сваёй галаве) сховішча забабонаў, прымхаў і стэрэатыпаў. Аднак кепскім наступствам гэтага неабходнага працэсу часам можа стаць, на жаль, (сама)разбурэнне асобы.

## Яны шчаслівыя. А мы?
*Ідылія*

Яны выйшлі ранкам з хаты, сонца ім
падарыла шчодрую усмешку.
Дуб ім вокам хітрым падміргнуў,
ветрык праспяваў ім серэнаду.
І дарога павяла – у лес, а там
расказаў ручай ім ціха казку,
выйшаў на паляну там алень –



прынц лясны з вялікімі рагамі –
і ласкава глянуў ім у вочы...

А тады яны дайшлі да рэчкі,
што на сонцы трошкі разамлела
й грэлася, нібыта кацянё.
І купаліся яны ў паўсоннай рэчцы
і дзяліліся з ёй радасцю сваёй.

Тут здалося ім – знікае Час
і застаецца толькі шчасце, Шчасце...

Той парой не верылася ім,
што калісьці прыйдзе Час
і назаўсёды
скончыцца для іх (для ўсіх) ідылія...

*[...І што будучыня шчэ народзіць такіх страшных*
*«дзетак», як Асвенцім і Бастылія,*
*як ГУЛАГ, Дахау, Курапаты...].*

## Млее хтось, а хтось шалее...
*Імпрэсія*

Сонца
вуснамі гарачымі цалуе
возера лясное,
а яно –
ад такіх любошчаў
проста млее...

Ну а побач –
у цяньку! –
лясны ручай

ад пякучай рэўнасці
шалее...

## Прыгода яхтсмена
*Каламбур*

Калі на моры на салоным
зноў пачалася «качка»,
скаціўся з яхты ён,
а далей –
паплыў,
нібыта качка...

## Каменьчык роспачы
*Каламыйка*

– Ах, дзяўчына, чаму сёння сумная такая?!
Сэрцу не дае спакою мо бяда якая?

– Ах, мой сябра, сэрцу цяжка – там ляжыць
каменьчык
роспачы – пайшоў мой любы – ясны мой
праменьчык.

## Пачатак сагі нашага кахання
*Канцона*

...Прызнаюся, што да Цябе цяпер імкнуся
так неадольна, бы маленькі матылёк
ляціць да вогнішча, не баючыся ў ім згарэць...



З Табой знаёмствам я заўсёды ганаруся
і згадваю той дзень, калі здалёк
цябе у парку убачыў, і глядзець
пачаў на твае рухі; нават медзь
лістоты пад нагамі больш увагі
ўжо не прыцягвала, і сумессю павагі
з цікаўнасцю напоўнілася сэрца,
і ў ім зайграла раптам шчасця скерца...
Ну а душа была гатовая ўзляцець
да неба. І хапіла мне адвагі
кахання нашага раскрыць старонкі сагі...

## Подых часу ў прасторы
*Квантэма*

пераадолець час

маўчання подых

прастору разарваць

## Цудоўная незнаёмка
*Мадрыгал*

Я сустрэў Вас пазаўчора, незнаёмка,
і хачу сказаць (хоць мне крыху няёмка):
«Закахаўся ў Вас я вокамгненна
і цяпер я хворы – несумненна!
Афрадыта Вы, царыца, проста фея,
месца не знаходжу ўжо сабе я.
Мне не спіцца доўгімі начамі.

Паратунак ёсць адзін –
то ночка, фея,
з Вамі...»

## Шумлівыя сябры
*Макаранічны верш*

Адзін з дзяцінства курыць
выключна цыгарэты «Астра».

Другі любуецца, як in the garden
цвіце маленечкая астра.

А трэці вывучае содержанье
зямельнага кадастра...

...Калі ж збіраюцца ўтрох тыя сябры
за чаркай (sorry!) кубачкам гарбаты,
тады, по правде говоря (о, жах!)
суседзям хоць бяжы з уласнай хаты.

Яны тады спяваюць і «My way»,
і «Yesterday», «Besame mucho» і
«Купалінку», і «Мурку», «Sole Mio»,
«Червону руту», шчэ «Не уходи,
побудь со мной...», а потым, ну а потым
звычайна грае хтось на фортепиано,
хтось верашчыць, а хтосьці нават танчыць
пад песню-супершлягер «L'Italiano»...

Затым яны нярэдка, нібы воўкі,
так жаласна і сумна выюць «У-у-у-у!»,
суседзі аж шалеюць і ў адчаі
крычаць: «Мы упечем вас всех в тюрьму».



А тым сябрам – да фені, «хоть бы хны»,
яны ў адказ: «Заткнитесь, фестивалить
сегодня будем до рассвета мы,
і нам никто не сможет запретить
орать на всю ивановску...,
и петь, и прыгать, нібы мячыкі, смяяцца,
куражиться, чтоб разогнать свою тоску!»

Затым мармычуць усе: «Per aspera ad as...»,
і ўяўляюць, што прыбег да іх Пегас...

Ну а затем, калі няма што жрать,
они все падают, усталые, на пол
и на диван шикарный, чтобы после
нібы мядзведзі у бярлозе, спаць і спаць...

## Глядзяць...
*Монаверш*

Неба вочы глядзяць на нас з жахам.

## Згарае надзея
*Мураба*

Згарае надзея ў вогнішчы суму
і сэрца так стогне ад дзённага тлуму,
і ноч неўпрыкмет ды наводзіць на думу –
душа твая здрадзіла мне...

З табою расстанне – бы ў пекле пакута.
Здаецца, у крыві разлілася атрута,

да роспачы вежы ўжо сэрца прыкута.
Душа твая здрадзіла мне...

Здаецца змярцвелай і бляклай прастора
і дух мой прыціснуты каменем гора.
Хай гэта спадман, ды не веру, што ўчора
Душа твая здрадзіла мне...

## Мая жамчужынка
*Мусаба*

Ты – жамчужына ў моры, лёс мне стрэчу даў
з табой.
Да сустрэчы жыў я ў горы, знік ранейшы мой
спакой.
Як шукаў дабра агеньчык, то ўставаў адчай
сцяной.
Зняў з душы я зла каменьчык, як разліўся сум
ракой.
Але ж ты, святла праменьчык, асвятліла мой
пакой.
Чараўніца, бы дзянніца, позірк светла-цёплы
твой!
Бурнай жарсці ты царыца, кон пакутна-шчасны
мой!

А любоў твая, вядзьмарка, для душы маёй –
бальзам.
То бяжыш ты, нібы хмарка, то стаіш, бы горны
храм.
Сэрца ты майго ўладарка, шчасця цуд –
быць побач нам.



Нітку хай прадзе нам Парка, верым мы салодкім
снам.
Я цябе, будзь хоць русалка, анікому не аддам.
Чараўніца, – бы дзянніца, позірк светла-цёплы
твой!
Бурнай жарсці ты царыца, кон пакутна-шчасны
мой!

## Ісці па сцяжыне спакою...
*Мусадас*

Пры радасці й замілаванні, ты волі слязам
не давай.
Закоціцца сонца кахання, свой боль ты сябрам
не давай.
Узмоцніцца горыч чакання, ты сэрцу бальзам
не давай.
Калі прыйдзе час развітання, знікаць светлым
снам не давай.
Для роспачы й расчаравання падстаў сваякам
не давай.
Пасля зорнай ночкі спаткання, злавацца бацькам
не давай.

Ідзі па сцяжыне спакою і сум ад сябе адгані.
Як сплынуць надзеі ракою, хоць шчасце
ўспамінаў вярні.
Як будзеш сам насам з бядою, яе спеў маркотны
спыні.
А як пойдзе страх за табою, яму ў вочы смела
зірні.

Калі ж стане жонка чужою, з жыцця сцежкі ўбок павярні.
І ў час горкі выпрабавання, сваволіць сынам не давай...

## Пайсці і выцягнуць з балота
*Мусаман*

Пайду і выцягну цябе з таго балота,
дзе уладарацць Зайздрасць, Боль і шчэ Маркота.
Не здолеюць стрымаць мяне ні дождж, ні слота
(я здольны выцягнуць адтуль хоць бегемота).
Пасля цябе я палячу адварам бергамота
і выведу цябе на двор тады, калі спякота
прагоніць холад і ў той час мы зробім фота –
на ім з Душой тваёй цалуюся я ўпотай...

Вось так цябе я выцягнуў і цяпер
не адпушчу цябе нікуды (мне павер!).
І мне ніякі ўжо не страшны звер.
І я ўпэўнены, што больш ніколі панявер-
ка не ўхопіць за руку мяне і скер-
ца я сыграю, і хай Травень (добры Herr)
прагоніць холад, і ў той час мы зробім фота –
на ім з Душой тваёй цалуюся я ўпотай...



## Тугу лепей кінуць у печку
*Мусамат*

Душу агарнулі туга і знямога,
здалося, знікае ў тумане дарога
жыцця майго сумнага і ля парога
ўжо топчацца хтось (мо, пасланнік Сварога?),
што шэпча мне: «Дух свой узвысь, о нябога!
З душы цяжар одуму скінь!»

Але не пушчу я нікога ў свой дом,
тугу лепш і стому зап'ю каньяком,
тады ўяўлю, што лячу я з крылом
падбітым. А ўнізе Гамора, Садом...
Разбіў тую мрою сусед мой Пахом,
што гыркнуў: «У печ тугу кінь!»

## Лёс стрэцца нам дазволіў толькі раз...
*Мухамас*

О лёс мой, злюка, чаму дазволіў мне стрэцца
з любаю так позна?!
Чаму глядзіш на мяне сягоння, нібыта вораг
зацяты, грозна?
Дзеля свавольства твайго, о лёсе, мне у душы
цяпер марозна!
Няўжо на дзень усяго нас звесці ты вырашыў,
адкажы сур'ёзна?
І ў прадчуванні расстання з мілай так б'ецца
сэрца маё трывожна...

За літасць, лёс мой, і за спагаду тваю аддаці табе
што можна?!
На чэсць тваю гімны і дыфірамбы спяваць
гатовы я нат бязбожна.
А калі хочаш, прайду па ўскрайку абрыву смела,
неасцярожна.
Чаго ты хочаш, усё зраблю! Маўчыць мой лёс.
І бачу, дождж на-
дзею, ўсмешку дорыць мне, каб не было мне так
трывожна...

## Адзін з нас свін
*Нанет*

Я русалкай цябе называў,
балота ляснога «зоркай»,
нават (sorry!) вавёркай,
і асанну спяваў...
А ты ўсё маўчыш,
нібыта мыш.
Я адзін.
Хто свін?
«Блин!»

## Распарадак дня
*Нона*

...Смяюся ў стамлёныя вочы Сусвету
і слухаю ноччу з катом аперэту,
а зранку люблю граць я на саксафоне



і сонечных зайчыкаў сеткай лавіць,
а ўдзень грэю я славалюбства на сонцы,
каханай «Ich liebe dich» я па смартфоне
сказаці люблю. Ну а ўвечары ніць
размовы падтрымліваць ледзь не бясконца,
і ўрэшце, ўяўляць, што сяджу я на троне...

## Страшны сон
*Паліндром*

Сон: нос
ката? – так!
Буда – дуб.
Амок і кома.
Гром і морг...

## Сціплае жаданне
*Пантум*

Імкнуся стаць вялікім чалавекам,
паэтам быць славутым я хачу.
Хачу, бы птушка, ўслед за нашым векам
ляцець і... абагнаць усіх. Я ўсё магу!

Паэтам быць славутым я хачу.
І вось таму я зараз стаўлю мэту:
ляцець і... абагнаць усіх. Я ўсё магу!
Пра што ж яшчэ больш марыць мне – Паэту!?

І вось таму я зараз стаўлю мэту:
душы уладцам стаць усіх жанчын.

Пра што ж яшчэ больш марыць мне – Паэту!
І адмаўляцца ад яе няма прычын...

Душы уладцам стаць усіх жанчын...
Любіць каханку шчыра, не са здзекам...
І адмаўляцца ад яе няма прычын...
Імкнуся стаць вялікім чалавекам...

## Афрыканскае сафары
*Пародыя*

> ...дрэвы растуць ацяпляльнымі батарэямі...
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> я ганяю зграі афрыканскіх мух...
> *Зміцер Вішнёў*

Мне не было чаго рабіць,
не ведаў, чым заняцца.
Надумаўся: я мух лавіць
у Афрыку паеду.

І вось прыехаў: а там іх
агромістыя зграі!
Тады пагнаў іх (я не псіх!)
у аазіс найбліжэйшы.

Гляджу, а дрэвы там растуць
нібыта батарэі.
Загнаць надумаўся на іх
спалоханых тых мушак.

І – дзіва, дзіва! – я гляджу,
што мухі, бы вароны,
на тыя дрэвы-батарэі



ўсе роўненька паселі
(ды не ўлічылі, небаракі,
што батарэі тыя
былі ў той дзень і у тым месцы
гарачыя такі-і-і-і-і-я!)

...Вось так і скончыў я сваё
у Афрыцы сафары.
І тых засмажаных я мух
прывёз (ур-р-а-а-а!) дахаты.

## «Забраць такую долю не дазволю...»
*Пастараль*

Як промні сонца казытаць пачнуць
на золку шчэ паўсонную зямельку,
выходзіць з сваёй хаты пастушок,
паклонам сустракае на падворку
прыціхлыя дубы два векавыя.

Навокал – царства цішы, не пяюць
нат птушкі – спяць салодка ў гнёздах.
І выганяе хлопчык-пастушок
(яго завуць усе родныя «Алесік»)
з хлявоў сваіх каровак і ступае
ён басанож па ранішняй расе,
нібыта йдзе па россыпах алмазаў...

І будзе пасвіць ён кароў сваіх,
чужых, і небам будзе любавацца,
і мары паляцяць яго туды,
дзе прабягаюць сарамліва аблачынкі.

І стрэне, можа быць, на лузе ён
прывабную суседскую дзяўчынку,
і разам з хорам птушак і вятроў
яны зямлі падораць дзіва-песню.

А потым прыйдзе вечар з-за гары,
прашэпча: «Ўжо дамоў пара, Алесю!»
І пастушок пагоніць статак свой
назад, стамлёны трошкі ды шчаслівы.
Шчаслівы, бо у вёсцы яго любяць
і цэняць надта моцна, а таму
хто б колькі ні прасіў і хто б ні клянчыў,
ды толькі долі сваёй гэткай анікому
ён нават за каралі не аддасць...

## І прагнаў чалавек сваю мрою...
*Паўсанет*

Хацела птушкай яго мроя
ляцець высока, у блакіт,
каб увайсці ў нябесны скіт
да мар, сказаць: «Ojczyzno moja!

Хачу застацца тут навек,
бо ён зрабіў з мяне ізгоя
спадар мой змрочны – чалавек!»



## Скардзяцца хвалі
*Пентаметры*

Бачу на беразе мора бег запаволены хваль.
Слухаю ўважліва шэпт іх увечары, ноччу і днём...
Колісь пачуў я на ранку скаргу зялёных тых хваль:
«Мы ўжо стаміліся лашчыць бераг бязлюдны, пусты...»

## Спячка
*Пеон*

Спавітая туманамі,
зямелька засынала.

А ў роднай у староначцы
нядоля панавала.

Ой, родная староначка –
нягеглая дзівачка, –

Ты спіш, не прачынаешся.
Ўставай!
Маўчанне.
Спячка...

## **Не пушчу...**
*Прыпеўка*

Не пушчу цябе сягоння
я ўначы на танцы,
бо там будуць (я баюся!)
танцы-цалаванцы...

## **Беларускі Баян**
*Прысвячэнне*

*Дзядзьку Рыгору (Барадуліну)*

Кшчоны вы нябёсамі і Богам,
каб служыць святыні нашай – мове!
Каб насуперак і бедам і трывогам
эліксірам быць трываласці ў знямозе!
Голас Ваш узнёслы вышэй гор
узлятае, мудры дзядзька наш Рыгор!
Вы – паэзіі цудоўнай акіян,
чараўнік і беларускі наш Баян!



## **Гойдаецца...**
*Пункціp*

сеўшы на тонкую галінку,
колькі імгненняў
гойдаецца на ёй,
як тое дзіця на арэлях,
маладая варона...

Вясна.

## **Бруд і чысціня**
*Раёшнік*

...Стаяць на вулцы алкашы –
ніхто не ведае,
навошта яны п’юць і за якія за шышы?!

А ля памыйніцы купка бамжоў
нагадвае
(даруй нам Божа!)
галодных і знядужаных звяроў...

А шчэ стаяць, глянь,
ля гатэлю прастытуткі –
здаюць у арэнду цела
на гадзіну,
а то бывае, і на суткі.

І ходзяць у горадзе
бяздомныя сабакі –
але ніхто на іх увагі не звяртае,
бо ўсім яны (pardon-pardon!) да с...кі.

Вы думаеце, што ўсё брудна, кепска,
ды не трэба
пускацца ў роспач,
бо ўсё-ткі застаецца чыстым... неба.

## Сон паўвар'ята
*Санет-брахікалан*

Сон:
Леў
млеў –
клон!

Слон
З'еў
Дрэў –
Сонм!

Кот –
Жмот!
Брат –
Голь!
Кат –
Боль!



## Сцяну адужаць зможам талакой...
*Секстына лірычная*

На нашым на шляху да волі
узнікла доўгая, высокая сцяна.
Чыя яна? Як абыйсці яе? Паволі
мы рушылі убок, але ж яна
таксама (дзіва!) перайшла даволі
імкліва ў той жа бок. Што за бяда?!

І мы падумалі: «Ці ж гэткая бяда
нам не дазволіць усім дайсці да волі?!
Ды не, не быць таму!» І крыкнуўшы: «Даволі!»,
мы ўперад рушылі, а тая вось сцяна
стаіць на месцы. Бачым, што яна
нас прапускаць не хоча і паволі

расце і пашыраецца. Паволі
мы падыходзім да яе. Ды вось бяда:
стаіць, застылая, бы статуя, яна
з прыжмурам кажа: «Ды не ідаць вам волі
ніколі, бо я не звычайная сцяна,
а роспачы сцяна й на тым даволі

нам гутарыць. Усё! Канец! Даволі!
Вяртайцеся усе дамоў паволі!»
Вось так казала дзіўная сцяна.
Здалося нам, што чорная бяда
крылом каменным шлях да светлай волі
нам перакрыла ды ўсміхаецца яна.

Якая ж злосная і жорсткая яна!
Што ж нам рабіць?! І разам мы даволі
нядоўга думаўшы, рашылі: «Шлях да волі

працягваць будзем мы. Таму паволі
мы будзем разбіраць сцяну й бяда
адступіць, знікне, як разбурыцца сцяна.

«Не здамся я!» – сказала нам сцяна.
Мы разбураць яе, як закрычыць яна:
«Разбурыце, то будзе вам бяда
вялікая!» Мы не спужаліся й даволі
рашуча ўсталі талакою і паволі
яе адужалі – і з Вераю! Да Волі!

## Дарэмна…
*Секстына*

Мая шчырая страсная песня ляціць да цябе,
саграе табе душу і думкі, і чуйнае сэрца...
І птушкі спяваюць штодня свае песні табе,
і вецер шаўковы грае радасці ціхае скерца...

...Дарэмна ўсё: птушак спеў, ветру музыка,
песні, –
каханне тваё хутка знікла, як лёд, напрадвесні...

## Муха-туга
*Стракаты верш*

Заляцела назойлівай мухай туга –
дзе ўзяць сілы яе выгнаць з хаты?!

Нет здоровья – болит голова и нога.
Я всё помощи жду – от кого и когда?!



Я ж адзін – малады, нежанаты,
тую муху не выгнаць мне з хаты!

Но я верю – наступит спасенье
и та муха-печаль в воскресенье

улетит. Хай ляціць яна ў іншую хату –
иль к соседу, иль к брату, иль к свату...

## Скарб
*Фігурны верш*

Я
Учора
Знайшоў
Выпадкова
Скарб цудоўны,
Што амаль паўжыцця
Шукаў надта настойліва я,
Мне з ім сонечна, ім ганаруся,
З ім скачу я, спяваю, жартую, смяюся;
Скарб бясцэнны, таму я нікому яго не аддам,
Даражэй ён за золата, скарб той – то любая, ты!

## Саманадзейны халасцяк
*Фрашка*

Ён быў упэўнены –
не жэніцца ніколі!
(Бо прызвычаіўся
да халасцяцкай долі)...

Але аднойчы –
(дзякуй зімнім сцюжам!)
узяла ў палон яго
дзяўчына-інстытутка.

І ўсе вакол здзіўляліся,
як хутка
яна яго зрабіла сваім... мужам.

## Спрэчка між намі і небам
*Шаіры*

«Мы – супернікі нябёсаў, –
з імі ў спрэчцы мы заўжды.
Колькі прыняслі нябёсы нам пакутаў і бяды!
Мы змагацца з імі будзем вечна, смела, гуртам
ды
ім насуперак мы створым паўсюль райскія сады!»

«О, вар'яты-небаракі!» –
неба гучна нам сказала. –
Я ж заўсёды, бы дзіцёнка, на руках вас калыхала!
Без мяне вы проста пешкі, без жывой вады піяла,
дом без вокнаў, лук без стрэлаў, змрочная пустая
зала...»



## Коўдра для палюбоўнікаў
*Эклога*

**Пастушок. Вецер. Гала**

Пастушок

На лузе спалі мы на коўдры, што нябёсы
накінулі на травы і на плёсы,
і сон наш сцераглі адны аблокі,
што супыніліся й адклалі свае скокі...

...А як прачнуліся на ранку, то да нас
адразу ветру даляцеў прыгожы бас.

Вецер

А што прынесці Вам – спякоту? прахалоду?
А можа дождж, каб мелі вы нагоду
схавацца ў лесе у дрымучым, а затым
пайсці купацца ў сонным возеры лясным?

Пастушок

А я ў адказ яму: «О, вецер, нам не трэба
твайго спрыяння, лепш спытай у Феба,
ці зможа праспяваць ён мадрыгалы
для маёй любай – прыгажуні Галы?!»

Гала

О, так, мой любы, я чакаю спеву
такога доўгага, як учарашняя залева,
такога страснага, як першы пацалунак,
які я ўспрыняла як падарунак
доўгачаканы, мілы, ад цябе, –
той пацалунак у рачной вадзе...

*І той вятрыска паляцей, спытаў,*
*а потым зноў да іх на луг той завітаў*
*і так з усмешкаю гавора:*

В е ц е р
(ад імя Феба)

Сябрукі,
мне Феб сказаў, што надта не з рукі
яму сягоння памагаць вам, закаханым,
таму параіў ён занурыцца ў нірвану
вышэйшае любові, а затым
сказаць, што вы растали, нібы дым...

*І вось, падумаўшы, сказаў хлапец у адказ:*

П а с т у ш о к

О, дзякуй жа за клопаты пра нас,
навошта мадрыгал нам і нірвана,
калі са мною побач дзіва-Панна.
Лепш пойдзем зноў у лес, і давідна
шукаці будзем мы старога Лесуна,
які прытуліць нас у сваёй хаце,
каб мы кахаліся там не на коўдры,
а на ложку...

## **Устань...**
*Элегічны двуверш*

Глянь, мой сумленны сучаснік, – колькі ў краіне
падману!
Стань і змагайся ты з ім, быццам адважны ваяр!



## **Роспач**
*Элегія*

Гляджу у халодныя вочы Сусвету –
Бог піша прысуд там грахоўнаму свету.

Аб гэтым прысудзе не знае ніхто,
а людзі не верацьні ў цуд, ні ў святло.

І коціцца ў бездань матуля-зямля.
З абдымкаў адчаю не вырвуся я...

Ахоўнік мой верны – мая адзінота –
на варце заўжды, будзь то снег ці спякота.

Нідзе, ні ад кога няма дапамогі.
Туман. І не бачым жыццёвай дарогі.

І сілы так хутка мяне пакідаюць,
як снег у цёплы дзень, усе надзеі знікаюць.

О, як жа мне цяжка жыць у роспачы тут.
Відаць, Бог мне вынес такі вось прысуд.

І з ім – Божы раб – я даўно ўжо зміры́ўся...
А свет наш над безданню моўчкі схіліўся...

## **Лёс злоснага крытыка**
*Эпіграма*

Плявузгаў часта
на пісьменнікаў ён і
ўжо даплявузгаўся –
жыве ён там, дзе салаўі
співаюць на ўскрайку лесу –

карацей,
цяпер ён –
псіхбальніцы пацыент...

## І поўня пажадала закаханым...
*Эпіталама*

О, закаханыя, вы станеце ўжо сёння
нарэшце жонкаю і мужам, а таму
у гэты дзень святочны, калі поўня
ўжо неўзабаве займе свой пасад
на покуці нябёсаў, я хачу Вам
ад той сябровачкі чароўнай маёй – поўні –
адразу перадаць яе вітанне
і пажаданне: «Хай у вас будзе поўны
заўсёды куфар шчасця, а яшчэ
хай будзе дзетак у вас здаровых, колькі ў садзе
вашым кветак непаўторных расцвіло
ці столькі, колькі зор у зарападзе
вы ўсе убачылі нядаўна уначы!»

...А я што сам?
Я далучаюся да гэтых
такіх прыгожых пажаданняў поўні!
І шчэ скажу – вядзіце рэй сямейны
без крыўдаў, спрэчак, разам і нароўні!



## Слава
*Эпіфанія*

Сла-ва...

Адным яна ўяўляецца ў выглядзе высокага дрэва,
на якое многія спрабуюць залезці,
але ж нярэдка тыя,
хто залез вышэй за іншых,
надта балюча падаюць на зямлю.

*Гэта слава-дрэва...*

Другія параўноўваюць славу з імклівай птушкай,
якую вельмі цяжка злавіць
і ўтрымаць,
бо ў любы зручны момант
яна можа лёгка вырвацца
і знікнуць назаўжды.

*Гэта слава-птушка.*

Але мне здаецца,
што славу найлепей уяўляць
у вобразе драпежніка (напрыклад, тыгра),
якога мужны, трывалы і цярплівы чалавек
можа прыручыць і жыць побач з ім,
а баязлівага чалавека той драпежнік
можа моцна пакусаць
альбо ўвогуле з’есці.

*Гэта слава-драпежнік.*

## **Спакою думы-пчолы не даюць**
*Эпод*

Стаю я на скале і думаю аб людзях,
аб іх пустым жыцці,

пра іх ілюзіі, што ціснуць розум чалавечы,
і пра ў нікуды шлях.

Стаю, а думак маіх мора (ці балота?!),
як пчолы ўсе яны.

І лётаюць дзесь у лабірынтах-нетрах мозгу,
спакою аніяк мне не даюць...

Эх, людцы, людцы, ну чаму так кепска
вы бавіце свой час.

Было б усё добра, я б не турбаваўся
ад гэтых думак-пчол...

Стамлёны трошкі, ўголас я укленчыў
да сонца й да нябёс:

«Зрабіце штосьці з неадэкватным чалавецтвам,
адкрыйце яму шлях

да райскіх шатаў, бо інакш, зямляне,
не вытрываць баюся і затым

магу, расчараваўшыся, я падыйсці да краю
скалы і паляцець з яе...арлом.



III

# Хай упрыгожыць вершы навізна

## Кілішак, маркота, змяя
*Абсурда-разумка*

Кілішак – падпальваць – баран –
маркота – будан – змяя.

Кілішак маркоты выпіваюць змяя і баран,
і разам ідуць падпальваць будан...

## Малюнкі з жыцця
*Безэквівалентка*

Абапал – паб,
А ў пабе баль...

Ў маршалка – мак,
У гумне – марал...

...На баравіне – бар,
У ім – баран...

– Што, паняверка, пан?
– Так! – знік варан...

## Зазірнуць адным вокам у рай...
*Вертыкальна-гарызантальны верш*

Зірне на неба прывід
напэўна спадзяюцца і аблокі
у твае вочы іскрынкі ляцяць
цішыня веры у рай

## Дарога
*Верш-павялічка*

Дарога...

Дарога стогне...

Дарога стогне: цяжка ёй...

Дарога стогне: цяжка ёй насіць нас...

Дарога стогне: цяжка ёй насіць нас на руках...

## Не даць...
*Верш-пазл*

Паляцеў стралою
Апошні крок
Мой голас
Табе зрабіць
У бездань
Каб не даць

МОЙ ГОЛАС ПАЛЯЦЕЎ СТРАЛОЮ
КАБ НЕ ДАЦЬ
ТАБЕ ЗРАБІЦЬ
АПОШНІ КРОК
У БЕЗДАНЬ



## Не-паз-беж-на
*Дабудаваны верш*

Не-паз-беж-на

Не-ба паз-баўляе беж-анцаў на-дзеі

непазбежна

## Плач неба...
*Дыяганальны верш*

Плач неба.
Смех дрэва.
Цень сэрца.
Стома вады.

Вада плачу.
Неба стомы.
Сэрца смеху.
Дрэва ценю.

## «Ка...е»
*Інтэрактыўны верш*

Сэрцаў
хваляў
зорак
хмараў
душ
людзей
вятроў
прывідаў
сноў
**Ка......е.**

## Воля
*Інфандолька*

Воля – дамінантны модус эвалюцыйнага развіцця чалавечага соцыуму.

Воля – глыток жывой вады ў пустэльні беспрасветнага адчаю.



## Жаданне
*Канцовачны верш*

Адзінота мая, ты скачы,
бы кабыла, за дальні лясок!
З рэчкай там абдымаецца сонца.
Ляж, зарыйся ў пясок і кайфуй!...

...Адзінота, бы кабыла, з рэчкай ляж!
Скачы, лясок; сонца, кайфуй!...

## Спрыяць і ўпрыгожваць
*Кругавік*

Сонца

Упрыгожвала спрыяла

Каханне каб яно шчасцю

## Берагі рацэ звязалі ногі...
*Метамарфозны верш*

БЕРАГІ РАЦЭ ЗВЯЗАЛІ НОГІ

«ГАРА ЗБЕГЛА.
І-І...
ВОЗ ЦЯГНІ».

## **Мудрая надзея**
*Перавернуты верш*

...Мудрая надзея – паспяховая будучыня.
Надзейная мудрасць – будучы поспех...

...Лагодная ўсмешка – жыццёвае выратаванне.
Усмешлівая лагоднасць – выратавальнае жыццё...

...Запаволены час – нябачнае дзіва.
Часовая запаволенасць – дзіўная нябачнасць...

## **Стомлены маладзік**
*Перакрыжаваны верш*

...Стомлены маладзік – прыцягальнае відовішча.
Відовішчная прыцягальнасць – маладзіковая
стома...

...Халоднае сэрца – недарэчны выпадак.
Выпадковая недарэчнасць – сардэчны холад...

...Светлы сум – маўклівая радасць.
Радаснае маўчанне – сумнае святло...



## **Ствараючы...**
*Пeратасовачны верш*

Паэт стварае сусвет слоў

Словы Сусвету ствараюць паэта

Стварае словы паэт Сусвету

Сусвет стварае словы паэта

## **Хто ж падпальваннік?**
*Расшыфраваны верш*

...Ізноў адзін.

Нямая ноч.

Туман.

Кахання прысак.

І падпальваннік той самы –
нахабна-самаўпэўнены
П.А.Д.М.А.Н

<u>Магчымая і такая расшыфроўка слова
П.А.Д.М.А.Н.:</u>

Подлы Аматар Двурушных Маніпуляцый
Асепленымі Надзеяй.

## Паэзія
*Сінтэтычны верш*

Адзін другога пераконваў:

«Паэзія – гэта пошук дна бяздоннага маўчання».

Другі яму наважна запярэчыў:

«Не! – гэта адчуванне бязмежнага болю ў нетрах спрадвечнай мілосці».

А трэці паспрабаваў іх прымірыць:

«Паэзія – гэта спасціжэнне спрадвечнага маўчання мілосці на дне неабсяжнага болю».

## Зорка сэрца
*Усечаны верш*

Сэрца мора закахалася ў святло душы зоркі
Сэрца мора закахалася ў святло душы...
Сэрца мора закахалася ў святло...
Сэрца мора закахалася...
Сэрца мора...
Сэрца...
Зорка...

Сэрца зоркі...
Зорка сэрца...



## Свечка сніць дрэвы
*Цэнтрычны верш*

аблокаў свечка надзеі

маланкі сон трава

вяселле дрэў хаўтуры

СВЕЧКА СНІЦЬ ДРЭВЫ

## Плача мора
*Шчыгрынавы верш*

Плача мора самоты

Плача мора само

Плача мо раса

Плача мо Ра

Плач амор!...

## Кароткія тлумачэнні да вершаў

**Абсурда-разумка**. У гэтым вершы з загадзя зададзеных слоў «вымалёўваецца»адначасова як і штосьці разумнае, так і ўласна абсурднае, алагічнае.

**Безэквівалентка.** З асобных літар слоў беларускай безэквівалентнай лексікі складваюцца кароткія сказы з новым сэнсам.

**Вертыкальна-гарызантальны верш** – такі верш, які можна чытаць як паслядоўна па радках (гарызантальнае чытанне), так і па асобных слупках (вертыкальнае чытанне).

**Верш-павялічка** – паэтычны твор, які з кожным радком павялічваецца на адно слова.

**Верш-пазл** – такі верш, які трэба скласці, нібы мазаіку-пазл, з прапанаваных аўтарам слоў.

**Дабудаваны верш** – тут «дабудоўваюцца» (г. зн. павялічваюцца) часткі зыходнага слова.

**Дыяганальны верш** – другі катрэн (чатырохрадкоўе) гэтага твора ўзнікае ў выніку чытання па дыяганалі асобных радкоў з першага катрэна.

**Інтэрактыўны верш** – тут трэба падставіць пэўнае слова, якое пачынаецца на літары «Ка» і заканчваецца літарай «е». Аўтар прапануе (на выбар) чытачам наступныя варыянты гэтага слова – напр., «Каханне», «Калыханне», «Кальцаванне», «Кавылянне», «Калядаванне»; хоць сам чытач можа замест прапанаваных уставіць сваё слова, якое яму будзе больш даспадобы.

**Інфандолька** – назву гэтага верша можна расшыфраваць, напрыклад, як адмысловая «долька інтэлекту і фантазіі», альбо «долька інтэлектуальнай фантастыкі», альбо нават як «долька інтымнай фантасмагорыі». Інакш кажучы, такі твор уяўляе сабой больш-менш гарманічнае спалучэнне аўтарскай інтэлектуальнасці і фантазійнасці, прычым у вершы разглядаецца толькі адна тэма, адзін сюжэт, адна думка, але з розных пунктаў гледжання.

**Канцовачны верш** – з выходнага тэксту ўтвараецца новы верш у выніку своеасаблівага «змешвання» першых і апошніх слоў кожнага з чатырох вышэйпрыведзеных радкоў; у выніку ўзнікае адмысловае двухрадкоўе, якое мае адрозны ад першакрыніцы сэнс.

**Кругавік** – такі верш, які можа чытацца зверху (ад слова «сонца») па гадзіннікавай стрэлцы да слова «упрыгожвала», альбо, наадварот, супраць гадзіннікавай стрэлкі да слова «спрыяла».

**Метамарфозны верш** – такі верш, які будуецца выключна з літар першага сказу.

**Перавернуты верш** – верш, у якім словы першага радка «пераварочваюцца» і ў такім выглядзе падаюцца ў другім радку.

**Перакрыжаваны верш** – тут два першыя словы першага радка спачатку пераварочваюцца, а затым пераходзяць у канец другога радка.

**Ператасовачны верш** – такі верш, які складваецца ў выніку своеасаблівага «ператасоўвання» першапачатковых слоў і замены (у другім выпадку) адзіночнага ліку назоўнікаў на множны.

**Расшыфраваны верш** – тут падаецца іншая магчымая расшыфроўка ключавога апошняга слова.

**Сінтэтычны верш** – такі верш, які ўяўляе сабой своеасаблівы сінтэз (аб’яднанне ў адно цэлае) у заключным выказванні двух папярэдніх выказванняў.

**Усечаны верш** – такі верш, які з кожным радком скарачаецца на адно слова, а ў канцы «злучаюцца» першае і апошняе словы радка.

**Цэнтрычны верш** – такі верш, які «ўзнікае» з цэнтральных (сярэдзінных слоў) усіх трох папярэдніх радкоў.

**Шчыгрынавы верш** – такі верш, які з кожным радком змяншаецца (як шчыгрынавая скура) на адзін склад, а ў апошнім радку – на адну літару.





...кожны з іх вымушана спявае...
Ах, – той голас! Шчыры, душэўны!

*Райнэр Марыя Рыльке*

*...Пакуль маўчанне
валадарыць на зямлі
і неба даглядае свае сны...
Ды прыйдзе час –
маўчанне знікне і
распусцяцца,
бы кветкі,
галасы...*

## I.
## «Каб дрэваў чуць таемнае шаптанне»

«Іду, плыву, спяшаюся... Куды?
Навошта? А мо, лепш спыніцца,
Агледзецца, нікуды не спяшацца,
Пад сонца разамлелае спіну
Падставіць, выцягнуцца, загараць,
А потым ўстаць і так стаяці ціха?
Так, ціха... Так, стаяць... І ўсё ж,
І ўсё ж пайду я ўперад, напраскі
Каб дрэваў чуць таемнае шаптанне
І бачыць птушак, што вяртаюцца дамоў
І адчуваць вятроў пяшчоту рук,
Што гладзяць мне нястомна галаву.

А далей? Будзе лепей, відаць, плыць
Уздоўж дарог, што ніткаю віюцца
Між горадам і вёсачкай старой,

Напаўразбуранай, маўклівай і бязлюднай,
Дзе й гусі ўжо не ходзяць чарадою,
Не помняць хаты галасы гаспадароў,
Не чуе Дрэва смех дзіцячы на падворку,
І не глядзіць нат Зорка больш сюды,
няма дзе ўдзячных слухачоў у Птушак
І дзе царква ўжо зарастае быльнягом...

Што ж, плыць туды, дзе валадарыць ціша,
Дзе вольна дыхае паўсонная зямля,
І дзе самотных маіх думак не кране
Ніхто, і сам я не крану тады нікога,
І буду моўчкі я глядзець на краявіды,
Што праплываюць прад вачыма, як у кіно,
то хутка, то марудна. А далей?
Ну, а тады я пабягу далей, і неўзабаве
Патраплю ў гарадскога тлуму вір.

О, горад-монстр – дамы, масты, машыны –
Нязменна змрочны і бяздушны твар,
І аніяк цябе тут не хвалююць
Твае нялюбыя ўсе дзеці – жыхары;
Да іх ты абыякавы, яны ж
Табе таксама плацяць нелюбоўю.

О, горад! У цябе душа з жалеза,
І сэрца тваё чэрствае й дыханне
Тваё нясвежае. І мне тут не стае
Ні чыстага паветра, ні разлогу,
Ні сябра, каб мог з ім пагаманіць.
Я задыхаюся і кружыцца мне галава.
Пайсці адсюль, хутчэй адсюль пайсці
Туды, дзе ціха, дзе мне з ветрам можна
Навыперадкі бегчы, дзе зямля



Не мае шнараў ад слупоў і вуліц
І птушак дзе бельканта мне чуваць...

І неўзабаве горад мне, магчыма,
Руку сваю працягне, каб са мной
Маўкліва развітацца. Я ж руку
Сваю не працягну (зласлівы горад!),
Не развітаюся я з ім. Бо я така...
Такая гордая», – казала так ***Рака***.

## II.
## «Ляцець – нязбытная і прывідная мара»

«Стаяць гадоў мо сто – вось вырак мой...
Наканавана кім такая доля?
Не ведаю,
Чым угнявіла я
Прыроду, чалавека ці багоў?!
Мне хочацца хадзіць,
за ветрам бегчы,
З ім сумаваці, весяліцца,
бо ён – мой верны і надзейны сябра.

Вунь, паглядзі – рака...
яна бяжыць, бяжыць так лёгка
альбо ідзе сабе паціху,
і мне б хацелася
(штодня пра гэта мару!)
Нарэшце, зрушыцца
І крочыць, крочыць, крочыць –
Куды, не важна –

у поле, сад ці ўгору...
Ды толькі тое не удасца мне,
Хіба што, можа быць, калісьці
ў сінім ці ў ружовым сне...

Альбо, як Зорка, я хачу ляцець,
Вядома, не высока так і хутка,
Але ж, на жаль, ляцець, ляцець –
нязбытная і прывідная мара
Мая... Дык што ж рабіць?
Рабіць?! Ні-чо-га!
Трэ змірыцца з доляй
Такой, як ёсць,
І цешыцца з таго,
Што ў мяне ёсць.
А што ёсць? Ёсць магчымасць
Хоць цэлы дзень
Мне слухаць плюскат ручая,
І ў спёку невыносную шаптаці
Яму: «Бы ў падарунак, дай сваёй вады..»

І шчэ магу пагушкаці маленькіх
Дзяцей, што любяць бавіць час
Свой вольны каля ног маіх
Ці нават
на маіх радасных (хоць стомленых) руках.

Ну, а яшчэ, калі мне сумна,
Я люблю
прапанаваць гарэзу ветру свае песні,
ці лепш, сказаць, не песні, а замовы,
замовы-шэпты, што цякуць тады з душы...

А шчэ (ледзь не забылася!) ў мяне
Ні ў дождж, ні ў снег



Не мокнуць (дзіва!) ногі.
А гэта, зразумейце, радасць, радасць,
І нат прастуда мне не страшная зусім...

Так што не ўсё так кепска у мяне,
Як можна было думаць, і не варта
Самоціцца і плакацца, а лепей
Хоць і стаяць, але ж усё ткі жыць...

Вы пра мяне ўжо знаеце нямала,
Пра мае думкі, мроі, справы, хобі», –
вось гэта ўсё мне ***Дрэва*** расказала...

## III.
## «Неба наўздагон за мной бяжыць...»

«Вось, лячу я –
У неба.
Вось, зямля –
пада мной.
Падалося:
Неба ўжо не хоча
Адпускаці
ад сябе мяне,
а таму, глядзі, глядзі
і неба наўздагон за мной
бяжыць-ляціць.
Што ж, пайду
і з небам пагуляю
(пачакай пакуль
мяне, зямля).

З небам бавіць час мне –
не пакута,
не выпрабаванне –
Мілата!...

А яшчэ, яшчэ
Дуэтам з ветрам
Паспяваць люблю.
Яшчэ скажу, –
вецер той (вы чуеце!)
мне згодны
Толькі мне адкрыць сваю душу...

Тыя спевы нашы
Любіць слухаць
Заўсягды маўклівая зямля.
Слухае яна і часта плача
Ад таго,
Што з намі паспяваці
Не ўдаецца ёй,
Бо кожны раз
пры сустрэчы кажа
«У мяне няма голасу».
Я ў адказ ёй:
«Ах, зямелька,
не турбуйся –
Хоць спяваці ты не ўмееш,
Але ж як прыгожа ты маўчыш!...

Танцаваць мне
падабаецца прылюдна
У паветры –
гэта проста цуд!
І за гэткім танцам назіраюць



Найчасцей пяць-дзесяць гледачоў.
І калі уважлівыя вочы
Бачу іхныя,
тады танцую я,
Як ніколі,
весела, натхнёна,
Вельмі доўга,
покуль не стамлю-
ся. Ну а потым?
А затым на дрэве
на высокім сяду адпачыць,
з дрэвам – сябруком сваім –
люблю я
памаўчаці і пагаманіць...

Што яшчэ?
Мяне у нашай хатцы
Дзетачкі чакаюць:
Я да іх
Палячу затым, каб накарміці,
Напаіці іх,
сваёю песняй
Душы іх чуллівыя сагрэць,
І тады у хатцы ўтульнай нашай
Уладарыць будуць згода, лад,
І тады мы пойдзем паглядзеці
Разам на дзівосны зарапад.

А тады,
тады ў сваім гняздзечку
Будзем спаці ўсе глыбокім сном,
Покуль заўтра, заўтра на світанку
Прыйдзе сонца і разбудзіць нас», –
Так казала ***Птушка*** ў ціхі час...

## IV.
## «З табой схадзіці на нябесны баль»

«О, як жа, як высока над зямлёю
Мне жыць прыходзіцца
Ўжо мільёны год!
Мільёны? Не!
Куды ўжо болей – вечнасць!...
Высока... дый з такой вось вышыні
Зямлю я бачу добра
(зрок выдатны!),
і ўсё, што дзеецца тут удзень,
уначы на ёй таксама бачу-чую –
на гэта ўсё гляджу нярэдка з жахам,
а зрэдку нават з радасцю; яшчэ
падзей там столькі мае месца за гадзіну,
што ў мяне не назбіраеш і за год.
Каханкі (бачу!) распускаюцца, бы кветкі,
мякчэюць сэрцам, розумам, душой,
але ж у іх дзетак (ведаю таксама)
ўнутры быць можа не пяшчота, – халадок...
Увогуле, хацелася б цябе
узяць, зямля, ў свае далоні і,
нібыта мячык, кінуць моцна-моцна
ў бездань чорную, маўклівую, каб там
цябе злавіць змагла мая сяброўка,
а потым кінула, смеючыся, зноў мне.
І так бы нашая касмічная гульня
ішла б да тога часу, покуль ты,
зямелька, не сказала б ціха «Баста!»...
А шчэ, прызнацца шчыра, у мяне



ёсць даўняе, сакрэтнае жаданне
з табой схадзіці на нябесны баль,
дзе ты б была самай прыгожай зоркай;
мы б танцавалі разам, і усе
вакол крычалі б нам: О, брава! брава!»
А потым я б табе прапанавала
наведаць маю хату, і вячэру
табе б я згатавала, а тады, тады
мы б разам спалі соладка да рання...», –
вось так мне шчыра і зусім не горка
пра свае мары пела ***Зорка***...

## V.
## «Я і прырода – сябрукі, адзінадумцы»

«Рака і Дрэва, Птушка, Зорка расказалі
Пра думы, клопаты, надзеі ўсе свае.
Удзячны ім за шчырыя я словы
І што яны даверылі іх мне...

Скажу па шчырасці, былі ў мяне, былі
Такія ж прыкладна і мары, думкі, мроі,
І перажыць мне давялося хваляванняў
Такіх нямала, як яны перажылі.
Таму цяпер сказаць магу я горда:
«Я і прырода – сябрукі, адзінадумцы,
Мы паяднаныя любоўю і святлом,
Трываласцю і кволаю надзеяй,
І можа быць, удасца мне сустрэцца
Яшчэ калісьці з імі ночкай, днём...

Ну, што ж... Пачуў я тыя маналогі,
Відаць, вы скажаце наяве, але ж не
так было, бо споведзі я слухаў
Уважліва у дзіўным сваім сне,
Які, дарэчы, да канца не давялося
Дагледзець мне, бо тою ночкаю
У тым перашкодай стала навальніца.
Прачнуўшыся,
сказаў ***Я***: «Чараўніца,
Мо, й ты штось хочаш мне сказаць?!»
Але ўсміхнулася ты, на мяне зірнула
І выбар быў твой:
не казаць –
маўчаць...»

* * *

*...Ноч, ноч...*
*Ізноў і неба*
*і зямля*
*пакрыты лёгкім вэлюмам маўчання.*

*Чакацьмуць галасы усе світання,*
*каб вырвацца з абдымкаў сну на волю*
*і зліцца у сімфоніі быцця...*





## А холадна бывае і зіме...

...Ідзе па нашым горадзе Зіма.
Ідзе паціху і чамусьці ўся дрыжыць...

Чаму ж дрыжыць яна?
Таму, што у яе
няма пантофлі на адной назе.

Усе смяюцца ў нашым горадзе з зімы –
такой нягеглай і нат трошачкі няўклюднай,
але ж зіма між тлуму, гаманы
ідзе павольна і гавора ўсім прылюдна:
«Я вам у заплечніку прынесла падарункі
калядныя (то снічкі і карункі
дзівосныя), але ж пасля такой сустрэчы
надзвычай «цёплай», я ніводнай рэчы
з свайго заплечніка не дам вам і заміж
тых падарункаў хай сцюдзёны вецер –
мой брат стрыечны – прыляціць сюды,
а шчэ паклічу я сваю сястрыцу –
завею гожую – што скажаце тады?

...І не на жарт спалохаліся людзі,
што закрычалі: «Так, зіма, ты не рабі!»

Пантофлю згубленую хуценька знайшлі,
чым і ўлагодзілі пакрыўджаную трошкі
і засмучона-зледзянелую Зіму...

## «SOS!», або Адзін упаў, а Іншы спаў

Дзень спатыкнуўся
і упаў
у яму часу...

Ляжыць у яме той
на дне
й гукае:
«Вечар, ты –
калега і таварыш мой,
дык мне дапамажы
адгэтуль выбрацца!»

Аднак
калега не пачуў,
бо спаў ён шчэ
салодкім сном
ля плота за гарой
(спаў нецвярозы:
на вяселлі
быў файным тамадой!)

І доўга крык адчайны «SOS!»
паветра свідраваў...

Але ж калега
ў вус не дзьмуў –
як немаўлятка,
спаў...



## Ах, вы, крозы мае, крозы...

Мае крозы згарэлі у вогнішчы спліну
і цяпер «чэл» я бедны, без-крозны.
Гэткі выпадак дзіўны ды надта сур’ёзны:
мае крозы згарэлі у вогнішчы спліну.
І пайду ў дзень я светла-марозны
перад фактам пастаўлю кузіну:
«Мае крозы згарэлі у вогнішчы спліну
і цяпер «чэл» я бедны, без-крозны».

## Грымнуў...

Эх, запрэгчы б мяцеліцу
ды паскакаці
да каханай маёй
у палац!

Вось, запрог, паскакаў
ды на ростані першай
у бялявы снег тварам я –
бац!

...Не змагла дачакацца
каханка мяне
й запрасіла дамоў
мільярдэра...

Ну, а я да той здрадніцы
пешкі пайшоў
і грымнуў з горыччу:
«Шлюшка! Мегера!»...

## Жыву з тугою і маўчу

Мая туга
сказала: «Га-
ды бягуць,
а я з табой
жыву нібыта за сцяной
каменнаю...
А як табе
жывецца столькі год
са мной?»

«З табою жыву
як са змяёй –
такою я-д-а-в-і-т-а-ю! –
Таму й маўчу,
не пікаю».

## Dream Team

Быў гульцом ён каманды Dream Team,
але доўга гуляць у ёй не здолеў,
бо парушыў спартыўны рэжым
і віною таму стаў інтым
з самай вернай адданай фанаткай
(ён яе называў коткай Наткай),
што на зборах яго спакусіла –
тым кар'еру яго загубіла,
і адразу ўцякла і па скайпу
яму мовіла: «Я на Ямайку
палячу заўтра з новым бойфрэндам:
ён не лузер-спартсмен – алігарх!»



## Маналог непрызнанага генія

Цвіла на вуліцы вясна,
паэт сядзеў каля акна
і думаў: «Мусіць, геній я,
якога родная зямля
раджае раз у сто гадоў,
я супермен, я без грахоў.
Адно шкада – я непрызнаны
пакуль, хаця і закаханы
ў сваю паэзію, якую
ўсяму я свету прэзентую...
Дык што рабіць, хто мне адкажа,
мо, хто талковае што скажа?!»

І тут штосьс важнае адчуў
і голас, бы з нябёс, пачуў:
«Не будзеш ведаць ты, хто я,
але выснова вось мая –
ніколі геніем не стаць
табе, хлапчо, і...кінь пісаць!»

## Казачныя метамарфозы

Вада расце,
нібы трава.

Трава ліецца,
бы вада.

Ягня смяецца,
бы дзіця.

Дзіця пасецца,
бы ягня.

Бяда гудзе,
бы грамада.

А грамада,
а грамада
не спіць, цікуе,
бы бяда...

...Ляцяць,
бы птушкі,
мае крозы...

Такія вось
метамарфозы
здарацца
могуць і наяве
(вось тут ваш голас чую –
«жах!»),
Але звычайна я іх бачу
Ўначы
у дзіўных, каляровых,
Неверагодных
сваіх
снах...



## Мізантроп

Хацеў бы згрэбці ў адну кучу
ён усіх людзей, жывёл Зямлі...

Затым узяць усю тую кучу,
падняць рукамі яе і
шпурнуць у пашчу злоснага Сусвету...

Узяў.
Падняў.
Шпурнуў ён. І
агледзеўся –
адзін застаўся на Зямлі...

## Ноч-плагіятарка

О, ноч-мастачка!
Я цябе
абвінавачваю
ў нахабным плагіяце,
бо што малюеш ты,
даўно зрабіў
Малевіч К.
ў сваім «Чорным квадраце»!

## Пегас і Парнас

О, конь мой белы легкакрылы, о сябар мой,
Пегас!
Хутчэй, хутчэй нясі мяне ты на сонечны Парнас!

Мяркую, стрэчу калісь там сваю каханку Музу,
мы возьмем шлюб і месяц будзе там мядовы
у нас.

На той гары нас будуць лашчыць аблокі кожны
дзень
і з Музай са сваёй я буду цудоўна бавіць час.

Гуляці будзем колькі схочам, піць з радасцю віно,
а хто станцуе хабанеру, ім прапануем квас...

Хай усміхаюцца, смяюцца і дораць кветкі нам,
каб наш агеньчык шчасця доўга на той гары
не згас.

Хай там ліюцца мае вершы ўсе плыткаю ракой,
няхай там кажуць усе навокал: «Ты, хлопча,
проста ас!»

І мару шчэ я, каб знайшліся ахвотныя сказаць:
«Вазьмі нас, мэтр, неафітаў, у паэтычны клас!»

Зайздросце, людцы, і ў бяссіллі нат можаце
крычаць:
«І мы на тую горку хочам патрапіць хоць бы
раз».

Я ж вам скажу, вам, небаракам, што калі ў вас
каня
няма крылатага такога, то й шанцаў нуль у вас...



## Сапраўдныя паэты

I.

Сціпласць –
упрыгожванне паэта!
Варта і цаніць яго за гэта.
А яшчэ за жорсткасць да сябе,
калі б'е ён па сваёй руцэ,
што выводзіць на паперы ахіне-
ю... Карацей, паэта вы і самі
ўсе пазнаеце,
калі ён увойдзе ў залу –
сціплы і... з пабітымі рукамі...

II.

Імкнецца свет стрэцца са мной tête-à-tête,
бо ведае ён, што я файны паэт!

## Скарга месяца

– Глядзіце,
а ў Месяца – вочы шкляныя
і нейкая шэра-нямытая шыя!
А шчэ ён чагосьці ўсё вые і вые...

– Чаго Месяц выеш,
нібы воўк у лесе?

– Таму што галодны я, на геркулесе
адным я трымаюся. Як жа мне жыць?!
Калі ж ты галодны, то цяжка не выць...
Скажыце, каб зорка прынесла мне кавы!

Не можа?! Ў яе сёння пільныя справы?!
О, дайце (хто можа) вады мне хоць! SOS!
Мне цяжка і крыўдна, і чэшацца нос...
Маўчанне?! Ніхто даць не можа мне піць?!
Ах, так! Дык усё – я канчаю свяціць!
От, гляну цяпер –
як вы будзеце жыць!

## Спрынтэр і стаер

Я бег за ім
я бег за ім
і вось
яго здалося
ухапіў я за руку...

Ды сапраўды здалося
бо ён знік
нібыта прывід
і на развітанне
гулліва крыкнуў:
«Не дагоніш ты ніколі
мяне бо ты
аматар-спрынтэр Чалавеча
а я ж нястомны
стаер-профі – Час».



## Стэп, стэп і step

За горадам –
нібыта коўдра брудная, – так выглядае неахайна
Стэп...

А ў горадзе –
старым на зайздрасць, два юнакі танцуюць файна
Стэп...

А у кватэры
English language бабуля вучыць так адчайна
Step by step...

## Перапыненая асалода

Упэўнена сяджу я на высокім троне,
каралі ззяюць у маёй кароне;
паслы замежныя з прэзентамі ў чарзе
стаяць па тры гадзіны да мяне;
віно цячэ ракой і лебедзь у вадзе...

Ах, як жа соладка
быць каралём....у сне.

## Хтосьці і я

Хтосьці хацеў бы напіцца,
а хтосьці – у космас злятаць.
А іншы – з суседам пабіцца,
нехта – капусту прадаць.

Хтосьці стаць зоркаю хоча,
а хтось – акіян пераплыць.
А нехта – з іх гучна рагоча
(і сам марыць геніем быць).

Калі ж хто спытае: «Ты кім
стаць хочаш, адказвай жа нам?»
Скажу я упэўнена ім:
«Хачу... ды не ведаю сам!»

## Маска

Надзеў чыноўнік
маску дабрадзея,
і ў ёй ад «крутасці» сваёй
ледзь не шалее...
Але ж я маю
ўсё-такі надзею,
што я сарву калісьці
тую маску
і ўбачаць усе,
што ён – не дабрадзей.

– А хто, мой злодзей?
Не!
– Ён проста цынік,
што любіць у тэатры
з'есці... фінік.



VI

# Праменьчыкі

## Паэтычныя мініяцюры

* * *

Маўчыць зямля.
Маўчыць пакуль і неба.
Ахутана усё глыбокім сном...

Ахутана,
ды прыйдзе час
і праз маўчанне
пачнуць травою прарастаці
нашых продкаў,
палеглых нашых продкаў
галасы...

## Засталося...

І голас твой –
ён танчыў,
ён спяваў...

І голас мой –
кружляў,
хацеў ён танчыць...

...І нашых светлых
галасоў зліццё
там засталося –
ў даўным
белым танцы...

* * *

Позні вечар.

Адзінока стаіць
маленькі хлопчык
пасярод двара
і самотна глядзіць на Месяц –
моўчкі запрашае яго пагушкацца
разам з ім на арэлях...

## Стварае нас родная мова

Асілак той вольны, хто мову шануе,
бо зброю надзейную мае!

Пігмей той і раб інфантыльны, бязвольны,
хто бэсціць яе, зневажае...

Жыцця эліксір ты, о родная мова,
і зёлкі ад немачы ты,
для душ нашых у прыцемках шызых паходня –
Ідзем з ёй мы ў край мілаты!

## Рэбус

Здаецца часам,
што прайсці праз уласны цень
прасцей мне нават,
чымся разгадаці
той рэбус незвычайны,
што на вулцы



мне загадалі ўчора
твае вочы...

## Каротка-доўгае каханне

Кароткае наша каханне:
сустрэча – расстанне...

Кароткае,
бо для Сусвету
яно –
ўзмах імгненны павек.

І доўгае –
ў памяці нашай
яно застаецца навек...

## Найлепшы абмен

Я пакланюся ў ногі
тому дню,
які падорыць стрэчу
мне з Табою,
каб мы змаглі урэшце
абмяняці
свае самоты дзве,
дзве адзіноты
на рэч адну
найдаражэйшую –
на Шчасце...

* * *

Тады,
калі абрынуцца
нябёсы на зямлю,
апошні раз
скажу табе:
«Люблю!»...

* * *

О, вадаспад!
А ты сапраўдны працаголік!
Пайшоў бы
хоць хвілінку адпачыў...

* * *

...А рэўнасці бязлітасны шакал
страшней для закаханых,
чым у моры
для пасажыраў караблёў
дзевяты вал...

## Убачыць невідомае

Якія файныя паветраныя замкі
будуюць разам
сонца, дождж і вецер,
у наш час цынічна-прагматычны



могуць убачыць
хіба што закаханыя
і дзеці...

* * *

Разварушыў я памяць,
нібы вулей,
і адтуль
напалі на мяне
ўспаміны-пчолы...

* * *

Заўтра,
мабыць,
з долу палячу,
бо здаўна ўжо
моцна, неадольна
факстрот з зорачкай
я станцаваць хачу!

* * *

І дождж той апякае,
бы агонь, –
дождж мараў і надзей маіх
разбітых...

* * *

Калісьці сонца,
бы люстэрка,
разаб’ецца,
і ў дзень той
сціхне
спеў апошні сэрца...

* * *

Якое дзіва дзіўнае,
зірні!
Па небу
вецер скача на кані!
Калі ж зірнуў я,
адарваўшыся ад спраў,
не ўбачыў дзіва –
мо,
той вецер праскакаў...

* * *

Месячная ноч.

Стаю на пірсе
і размаўляю з морам,
бо яно
для майго сэрца адзінокага
сягоння



адзіны і найлепшы
суразмоўнік...

* * *

На далоні маёй
ледзь бачны
неба падарунак,
што знікне
праз імгненне
назаўжды:

Сняжынка.

* * *

Вядзі, вядзі
да выспы шчасця нас
кахання нашага
маленечкі кампас...

* * *

Змяніўся
бязважкіх сняжынак баль
завеяй – вар’яткай нервовай,
на жаль...

* * *

Чую чую
галасы нязбытных кроз
над зямлёю
у высокім небе
ў крык зліліся
несціханы –
SOS!

## Бязлюддзе

Пакацілася рэха,
бы мяч.

За гарой
яно знікла
ў траве сакавітай,
густой...

Яно знікла
і болей
у змрочных краёх
ніхто рэха не чуў –
ні жывёлы,
ні Бог!



* * *

А Месяц –
вершнік
у латах серабрыстых –
асядлаў
сваю кабылу варанýю –
ноч...

* * *

А Сонца –
донар,
які з намі
заўжды гатовы падзяліцца
крывёй сваёю –
прамянямі...

* * *

А сонца-акрабат
так спрытна
становіцца на галаву гары...

## Страла памяці

А памяці страла
так лёгка
праходзіць скрозь гады
і праз краіны,

і там трапляе
(вокамгненна!)
ў сваю мэту –
у шчасця светлыя
ці болю цёмныя
карціны...

* * *

Мне увайсці
нат у цень Тваёй любові
і пастаяць там
(хоць хвілінку!) –
шчасце!

Так,
шчасце
недасяжнае
маё...

* * *

А зоркі
вісяць на канатах,
што прымацаваны да неба...

Пайду я
і тыя канаты
ад неба хутчэй адчаплю.

І неба
мне будзе удзячным,



што скінуў
цяжар я такі...

## Лашчыцца...

Вецер лашчыцца ўсё да бярозкі
і ёй
кажа:
«Сэрцу майго ты ўладарка!»
А бярозка яму сарамліва
ў адказ:
Даспадобы мне
у небе хмарка!»

## Закружы́цца ў танцы...

У касмічным
няспынным танцы –
зоры, Месяц
і наша Зямля...

І вось так
закружы́цца ў тым танцы
ў танцы шчасця
хацеў бы і я...

* * *

...А родны край
быць можа і крыніцай
з празрыстаю, гаючай вадой,
а зрэдку
можа быць
(як крыўдна!)
і багнай
з вадой бруднай,
нежывой...

## Падаюць...

...І падае з дрэва самотны лісток...

...І падае з неба тужлівы сняжок...

...І падаюць у немачы горкай вятры...

...І міг кожны падаем,
нібы дажджынкі,
у мора нябыту бязмежнае
мы...

* * *

Лістота за ўсё сваё жыццё аднойчы толькі выпраўляецца ў падарожжа (кароткае апошняе) з галінаў дрэва да бяздушнае зямлі...



* * *

А зайздрасць
усё-ткі калісь звар'яцее,
бо адпачываці яна
не умее...

* * *

Страх смялее статкам.

Бясстрашша баязлівіцца адзінотай.

* * *

Чую, чую
цяжкі стогн начы...

Яна стогне,
бо каханак ейны –
вечар –
здолеў сёння ад яе ўцячы.

І ноч стогне без супыну:
«Ы-ы-ы-ы».

* * *

Спасцігаю быцця таямніцы
пад містычныя гукі званіцы.

* * *

Чаму маўчаць нябёсы?
Мо, яны
не бачаць звадак на зямлі, маны?

Ай-а!
Яны ўсё бачаць,
але ім
не важна –
выжывем мы ці згарым
у вогнішчы бязлітасным хлусні...

* * *

Спасцігнуць
жанчыны душу не прасцей,
чымісці па слядах
зблукалага ветру...

* * *

Там,
за ракою,
уначы
агонь пачаў
вар'яцкі танец...

І гэты танец
не спыніць.
Жахлівы танец:
лес гарыць...



* * *

Як крыўдна!

Фотастужка маёй памяці
засвечана
і мне цяпер на ёй нічога
больш не удасца разглядзець...

* * *

І наша надзея
так хутка згарае
ў бязлітасным здрады агні,
і нашыя сэрцы
нячулымі сталі
і бруднымі,
бы камяні,
ляжаць што спрадвеку
і будуць ляжаці
жыццёвага тракту
уздоўж...

* * *

У неба тады прасвятляюцца вочы,
калі між суцэльнага тлуму зямнога
яно чуе голас паэта прарочы...

* * *

Пасцялю табе пад ногі я кілім
з успамінаў нашых лепшых,
каб па ім
ты з ахвотаю
амаль штодня хадзіла...

* * *

Хачу надзець
на сонца акуляры,
каб у людзей наўкол
закрасаваліся,
бы кветачкі, на твары
прыязныя лагодныя усмешкі...

* * *

Бяздомны Месяц
плача горка-горка,
бо
спаліла сонца
яго ўтульнае жытло,
дзе ён адпачываў
пасля сваёй
працоўнай вахты
цяжкае
начной...



* * *

Напоўніцца ўспамінаў музыкай
мой дом,
калі я ўсіх сваіх сяброў і сваякоў
змагу сабраці разам і сказаці:
«Вітаю, госцейкі,
чалом усім,
чалом!
Хачу,
каб вы паселі, бы грыбочкі,
каля адзін аднога за сталом,
і чаркі радасці ад нашай стрэчы
ўсе разам выпілі з ахвотаю,
нагбом!»

* * *

– А годнасць народная
дзе яна, дзе?!

– Па рэчцы знявер'я
сплыла кагадзе...

## Прастуда ракі

...І прастудзілася рака.
Кашляе тыдзень мо:
«Кха-кха!»

А вінны той хваробы –
дождж халодны –

даўно знік за бліжэйшым
за узгоркам...

Ну а рачулка бедная
хварэе –
ёй так балюча,
прыкра, сумна,
горка...

* * *

Па прыступках любові
ўверх –
да сонца!

Па прыступках адчаю –
ўніз –
у змрок...

## Расстанне

Маўклівы крык
у тваіх вачах.
Кіроўца думак –
мужны страх.

І чорнае святло ў душы:
віной усяму – злавесны ты-
грыны позірк недаверу...



* *

Да бяды –
шырокая дарога,
а да шчасця –
вузенькая сцежка...

* * *

Мяне трымае свет
у сваіх далонях
І закалыхвае,
як маці немаўля.

* * *

Калісьці я зачыніў дзверы свайго сэрца на ключ
і неўзабаве згубіў яго...
Пазней той ключ знайшла мая Адзінота і з таго
часу ўжо нікому яго
не аддае...

* * *

Там месца вольнага,
бадай што,
не знайсці –
там,
на ўзбярэжжы
страчаных ілюзій...

* * *

Сярод зорак ходзіць Месяц горда,
бы
певень ходзіць сярод курак
па двары...

* * *

...А дрэвы –
то паўсонныя жаўнеры
і яны
ахоўваюць тут скарбы незлічоныя,
якія
схаваныя пад імі –
у зямлі...

* * *

...Я знік бы
ў акіяне жарсці,
каб не ты –
О, выспачка цвярозага спакою.

* * *

Маці – дрэва галіна,
а бацька – яго карані.



Сам я – дубочак,
што побач
расце на ўрадлівай зямлі...

Дай Божа,
каб дрэва і дрэўца
шчэ доўга
у згодзе жылі...

* * *

З усмешкаю ляціць уніз –
прамень...
У жоўтым чоўне праплывае –
дзень...
Спявае ў лесе закаханы –
алень...
...І на зямлю кладзецца шчасця –
цень...

* * *

Вечар позны.
Пустынны пляж...

Сягоння
толькі я
табе на памяць
пакінуў голас свой,
свае сляды...

* * *

Дэльфін –
дзіцятка мора
любы з любых,
бо мора
любіць-песціць
разумнейшых.

* * *

Кліча самотнае неба ў дарогу
(покліч пачуў толькі я!).
Дух!
Вызваляйся з пакутаў астрогу,
расцісні абдымкі,
зямля!

* * *

Жыццё – ваўчок,
хоць хутка круціцца,
але
раней або пазней
бяссільна
упадзе...



* * *

Сэрца нашай планеты
трымаю ў руцэ –
а яно
(бачу!)
ледзьве ўжо б’ецца...

То быў сон?
Насланнё?
То наяве было?

Nie wiem сам,
але ў сэрцы маім
сумна льецца-гучыць
intermezzo...

* * *

Вольная святая птушка Ра-
дасць прыклад нам,
такім самотным
і бяскрылым...

* * *

Сябры мае –
вы ліхтары...

Вы асвятляеце жыцця майго гасцінец.

* * *

З той летаргіі доўгай і глыбокай
выйсці льга...

Аднак народ наш спіць,
нібы нямая
і нерухома-неабсяжная
тайга...

* * *

Як цяжка трымаць мне
лёсу стырно
на жудасным ветры адчаю!

* * *

...І кожнае імгненне –
не-паўторнае.

Мы іх губляем
не-заўважна, не-зваротна
і лёгка...

Жыццё –
імгненняў срэбраных віхор...

Суцішыцца –
і ўжо на развітанне
спявае ціха нам
анёлаў сумны хор...



* * *

Са злом, хлуснёй
я – раб бязвольны –
звыкаюся...

А потым,
tête à tête з сумленнем –
малюся-каюся...

звыкаюся і каюся
звы-
каюся...

* * *

Пайшоў я сцежкаю дабра –
і новых стрэў сяброў...

А як пабег я сцежкай зла –
стрэў нелюдзяў-ваўкоў...

* * *

Дні бываюць такія,
калі і душа
паляжаць
(хаця б трошачкі) хоча
у маленькай калысцы журбы...

## Ноч-збіральніца

...А ноч-збіральніца:
амаль усё зорнае святло
яна збірае і захоўвае ў сваім
таемным *зорасховішчы*,
а нам,
зямлянам,
пакідае толькі рэшту...

* * *

Душа
перад Табой была гатова
нат распрануцца...

Распранулася.

Ды Ты
раптоўна знік (-ла)
у тумане нематы...

## Прайсці...

Прайсці, прайсці,
не азірнуўшыся назад,
праз боль сцюдзёны
і нямую бессардэчнасць.

Прайсці ўвесь шлях,
каб на яго ускрайку



заззяла зоркай нада мною
панна Вечнасць...

* * *

Ноч
пільна сочыць
за любошчамі людскімі
і з крыўды ажно плача:
«А мяне
на гэтым
чорна-белым свеце
пакахае
хоць хтосьці і калісьці,
альбо не?!»

* * *

Ах,
як жа спрытна
павуціну рэўнасці сплятае
любоўнай жарсці
жвавенькі павук!

## Знямеласць

Знямелы сад. Знямелы клён.
Знямелая сцяблiна...

Знямелы твар. Знямелы сон.
Знямелая краіна...

## Маім голасам

Я свой голас
аддаў бы рацэ,
каб яна
хутка ўдалеч пабегла
й ля гаю
маім голасам мовіла
любай маёй:
«Сню. Самочуся.
Веру. Чакаю!»

## Баліць...

Душа мая
птушкай ляціць
над морам жыцця
ў вышыні

А сэрца
баліць і баліць
ад здрады
падману
хлусні



* * *

Злучыўся сум мой з радасцю
і мне
сягоння сума-радасніцца.
Су...ра...сні...
Сура сніцца?!
Не!
Сустрэчу радасць сніць.

* * *

Смурод хлусні й бязвер'я у краіне
і цяжка-цяжка дыхаць ад яго...

Але ж дух веры не растане, не загіне
і водар праўды данясецца, бо
іх цалкам знішчыць
шчэ не здолеў аніхто!

* * *

Лаўлю я словы
у затоцы мовы
і з іх руплiва
вершы-пацеркі збіраю.

Штось аддаю,
бы сувеніры,
ўсім ахвочым,
а штось

ў кішэню вечнасці
кідаю...

* * *

Бушуе часта
адчаю смерч...

Смялей узыходзіць
на ганкі смерць...

* * *

Выгнанніца з неба –
знічка –
падае ў мора,
яно ж
з ледзь віднай усмешкаю шэпча:
«Хутчэй падай –
будзеш навекі
мая ты,
мая ты,
мая».

* * *

Чарапахаю тоўстаю дзень паўзе –
без цябе...

Але сарнаю ночка бяжыць маладою –
з табою...



* * *

Парыпвае паціху жыцця млын...

Парыпвае
ды раўнадушны пазірае,
як адплывае
назаўсёды ў вечнасць
адважны і сумленны Лаэнгрын...

* * *

«Здымаюць» так лёгка,
бы яблычак з дрэва,
дзяўчат гожых хлопчыкі –
Ап!

...І ўсё гэта можна
назваць адным словам,
маланкавым словам
Pick-up.

* * *

О, дзякуй, дзякуй свежаму паветру
за тое,
што я выйшаў на шпацыр сам
і ўбачыў там дзівосныя па ветру...

* * *

Якая позная
ў нас сёлета вясна!

Я спадзяюся на цябе:
ты не адмовіш
і прынясеш мне
познае каханне.

* * *

Калі я складу
гэты пазл кахання,
тады абяцаю,
красуня,
правесці з табою
гарачую ночку
ў дзівосных Венеры ўладаннях...

* * *

Якая радасць незямная –
выпіць кавы
бразільскай кубачак
і прачытаць уголас,
бы мантру,
дзесяць танка Ісікавы...



* * *

Вясновай ноччу
ледзьве не да ранку
аўтографы
на цёмнай Кнізе Неба
ахвотна ставіла
гуллівая маланка...

* * *

Набліжаецца хваля цунамі.

На беразе
стаіць чалавек,
зачаравана
назірае за ёй...

«Чаго не бяжыш,
чалавеча?!»

Апошняя хвіля жыцця.

* * *

Дом айчыннай паэзіі
быццам тайфун
страсянуў
дзёрзкім вершам сваім
А. Гарун...

* * *

Дыктатар з далёкага Чаду
трымаўся, бы клешч, за пасаду.
Не спаў па начах,
бо грыз душу страх,
што злыдні захопяць уладу...

* * *

Баяўся Праўды карупцыянер,
нібы агню,
хаваўся ад яе
ў сваім вялізным доме...

Ды тая Праўда
ўсё ж знайшла яго, знайшла
й спаліла ўсё,
што ён займеў
не па законе...

* * *

Здаўна
ганарыцца тым сад,
што ў сэрцы ягоным
шапоча-спявае
фантан –
перакулены кімсьці калісьці
гарэза-спявак –
вадаспад.



* * *

Мне зорка прыснілася, а
пасля я прысніўся ёй...

Хацеў бы,
каб нашыя сны
калісь рэжысёр таямнічы
ўсё ж здолеў экранізаваць
і фільм паказаць той чароўны
у кінатэатры нябесным
анёлам...

* * *

Купаюцца-смяюцца аблокі
ў празрыстым нябесным моры.

...А мы ж ходзім панурыя, злыя
па дну таго вечнага мора...

* * *

Замглёнасць.
Шлях.
Бясчассе.
І бязмежжа...

Замглёнасць Шляху
паўз/праз бясчассе
у бязмежжа...

* * *

Дыхаю ў рытме Сусвету

Дыхаю дыхаю ра-
дасна і на поўныя грудзі
дыхаю тут у вышыні...

Дыхаю ў рытме народу
тут на прыціхлай зямлі
дыхаю дыхаю за-
дыхаюся я бо паветра
чыстага тут вельмі ма...

* * *

Гэй,
знікай хутчэй,
туман!

Хочацца даўжэй мне бачыць
сябра,
што адходзіць з маёй хаты.

Назаўжды?!

## Не дапамогуць...

Відаць,
не дапамогуць мне тут ні крылаты
са стрэламі любоўнымі Амур,
ні мае словы жарсныя:



«Красуня!
О, ластаўка! «Je vous aimerai toujours!»,
бо тваё сэрца
не пяшчотна-цёплае,
бы вецер
танклявы, а халоднае,
як мур...

## Напрасткі...

На скрыжаванні
роспачы і болю
стаю,
пытаю ў сэрца:
«А куды?»

А сэрца мне:
«Ідзі
праз лес пакутаў
да шчасця гаю
хутка напрасткі».

## І каб скнараю лёс мой не быў...

Я укленчыў:
«О, лёс мой,
ты збаў
маю душу ад чорнага тлуму,
ад пустых,
небяспечных забаў,
і прашу,

не скупіся,
а дай
шчасця крышачку
й каліўца суму...

## Толькі ў сне...

У мінулым душа мая –
брудная рэчка...

Ну, а сёння –
чысцюткі ручай...

...Так хацелася б верыць
у гэта,
але
так быць можа,
бадай,
толькі ў сне,
толькі ў крохкім
сярэбраным сне...

* * *

Пустыня. Ціш.
Бархан. І я на ім.
Здаецца,
што ажно да небакраю
дарогу нехта тут паслаў,
нібы кілім...



## Збядненне

Як дрэвы
увосень
губляюць лісцё,
так мы
з кожным годам
губляем
штось важнае
ў душах сваіх...

* * *

З вулкана рэўнасці
шырокаю ракой
ліецца магма узаемных крыўдаў...

І мне здаецца, што яна, бы Цмок,
гатова праглынуць ужо вельмі хутка
кахання светлага
чысцюткі гарадок...

* * *

Любоў, любоў...
Ты – круг выратавальны,
Для тых, хто калісь выпаў
(лёс зламысны!)
З жыцця фрэгата
Ў акіян журбы...

# Змест

## III.
## Хай упрыгожыць вершы навізна



## IV.
## Галасы
*Паэма*

## V.
## Бывае музе ўсмешка даспадобы



## VI.
## Праменьчыкі
*Паэтычныя мініяцюры*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Дубянецкі** Эдуард Станіслававіч

**Покліч самотнага неба**

*Вершы, паэма*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Юры Пацюпа*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Юры Пацюпа*

Падпісана да друку 3.10.2013. Фармат 80×100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 9,44. Ул.-выд. арк. 5,42.
Наклад 100 ас. Зак. 517.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.